

Адам Канапацкі.

Так пачынаецца афіцыйны адлік існавання гэтых двух родаў смілавіцкіх татар. Чаму ж менавіта ў гэты перыяд? Татары, як вядома, аселі на землях Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў канцы XIVст. На ўзроўні другой чвэрці XVII ст. буйнымі тэмпамі ішоў працэс пераўтварэння іх у шляхту. Ён быў звязаны са спробай урада Зыгмунда III стварыць у войску новую суполку накшталт рускіх казакаў. Яны былі прызначаны захоўваць усходнія межы – найбольш небяспечныя для Рэчы Паспалітай межы з Расіяй. Для гэтых мэтаў і паспрабавалі выкарыстаць літоўскіх татар, якім жалавалі землі на ўсходзе. З гэтых намераў урада мала што атрымалася – падчас вайны 1654-1667 гадоў усходнія землі вельмі хутка былі захоплены рускім войскам. Прычына гэтаму бачыцца мне ў наступным. Літоўскія татары знаходзіліся ў зусім іншых умовах, чым данскія казакі. Апошнія мелі перад сабой неабмежаваныя нікім невыкарыстоўваемыя землі, якія трэба было абараняць. Гэта дазволіла на працягу доўгага часу захоўваць сацыяльную роўнасць, а як следства – і стымулы абараняць сваю зямлю. Казакі акрамя таго існавалі адасоблена ад астатняга насельніцтва Расейскай дзяржавы.

Татары былі досыць інтэграваны з астатнім грамадствам Рэчы Паспалітай, а значыць, і з тымі адносінамі, якія ў ім панавалі. Надзелы, якія яны атрымоўвалі на траіх альбо чацвярых, былі вельмі нязначнымі па сваіх памерах. З цягам часу





Хава, жонка Адама Канапацкага.

абавязкова выдзяляўся адзін больш заможны, які і скупляў надзелы астатніх. Такім чынам парушалася роўнасць паміж былымі паплечнікамі. З гэтага моманту багацейшы больш займаўся асабістай гаспадаркай, чым ваеннай справай, а бяднейшыя не маглі ажыццяўляць свае дзяржаўныя функцыі проста па беднасці. Ды і што ім было абараняць, калі надзелы свае яны прадалі.

Канапацкія трапілі ў лік больш заможных. Яны разам з Раецкімі спачатку прадалі свой надзел у сяле Дамброва і купілі маёнтак Шчытаміржыцы пад Браславам. У ім яны пражылі больш за стагоддзе, а ў 1773 годзе выкупілі надзел Раецкіх. Аб гэтым сведчыць шэраг завяшчанняў, якія пачынаюцца з Сулеймана сына Абрагама і прыпыняюцца на Аляксандры, які ў 1774 годзе прадаў Шчытаміржыцы Івану Чачоту за 20000 злотых – даволі значную суму грошай. Сляды сыноў Аляксандра мы знаходзім у Смілавічах.

Лёс першых Хасяневічаў быў іншым. Ужо Газей Хасяневіч (родапачынальнік) саступіў сваю частку ў надзеле Асановічу за грошы. Гэта адбылося ў 1685 годзе. З гэтай падзеяй звязаны адзін цікавы момант. Газей памёр, не паспеўшы атрымаць грошы за зямлю. Асановіч жа адказаўся выплочваць іх яго сыну Хазею. Разбор гэтай справы ў судзе ішоў на працягу некалькіх год. Асановіч меў добрыя адносіны з некаторымі татарскімі князямі, якія спрабавалі абараніць яго інтарэсы на судзе. Але ўсё ж такі Хазею ўдалося атрымаць належачыя яму па спадчыне грошы. Відавочна, што адносіны паміж татарамі

нельга назваць добразычлівымі. Т.ч. спробы ўсталяваць роўнасць у іх асяроддзі не мелі поспеху. Трэба, безумоўна, адзначыць, што віной гэтаму былі не нейкія этнічныя якасці татар, а тыя адносіны, якія панавалі ў грамадстве Рэчы Паспалітай.

Сын Хазея, Мустафа, неаднаразова ўпамінаецца ў дакументах. У 1697 годзе ён атрымаў у заклад ад Юрэвічаў маёнтак Вайтнаўшчызна за 60 літоўскіх грошай. У 1700 годзе Мустафа ўжо сам перазакладвае гэты маёнтак шляхцічу Вяржбіцкаму. К гэтаму часу Хасяневічы пераўтварыліся ў дробных землекарыстальнікаў, якія неаднаразова мянялі месца жыхарства. У рэшце рэшт яны трапляюць у Мінск. У Мінску з'явіўся ўжо сам Мустафа.

Жыццё ў горадзе мала чым адрознівалася ад вясковага. Гараджане, як і вяскоўцы, займаліся земляробствам, але значны час удзялялі рамёствам. Татары, як вядома, былі добрымі рамеснікамі, а таму Хасяневічы лёгка прыжыліся ў Мінску. Але 6 з ліку ўнукаў Мустафы пераехалі з Мінска ў Смілавічы. Гэта адбылося на мяжы XVIII-XIX стст. Перыяд гэты ў жыцці смілавіцкіх татар быў перыядам вызначэння. На той момант становішча і Канапацкіх, і Хасяневічаў стала амаль аднолькавым: яны страцілі асабістыя землеўладанні і жылі альбо за кошт рамяства, альбо зямельнай арэнды. Перыядам вызначэння гэты час можна назваць таму, што адбылося раздзяленне родаў па месцу аседласці і больш ні Хасяневічы, ні Канапацкія яго не змянялі. Хасяневічы жылі ў Мінску і Смілавічах, а Канапацкія – у Смілавічах і Навагрудку (туды з'ехаў адзін з сыноў Аляксандра). Там яны існуюць і па сённяшні дзень.

Нас жа цікавіць, перш за ўсё, жыццё татар смілавіцкіх.

Смілавічы ўяўлялі сабой невялікае мястэчка з нязначным узроўнем развіцця рамяства і гандлю. На пачатку XIX ст. значную колькасць яго насельніцтва складалі татары і яўрэі. Канапацкія і Хасяневічы арэндавалі зямельныя ўчасткі ў мясцовага пана Манюшкі. Умовы для вядзення гаспадаркі ў іх былі нядрэннымі, бо яны, як шляхта, не аблагаліся падаткамі.

Гэты перыяд вызначаецца і тым, што ішоў ён пад эгідай новай дзяржавы – Расейскай імперыі. Адносіны да літоўскіх татар былі дастаткова лагоднымі. Татары адказвалі тым жа. Аб гэтым сведчыць стварэнне ў 1797 годзе Літоўска-татарскага палка, у які татары запісваліся з вялікім жаданнем. Ваенная служба ў той момант была адзіным сродкам дабіцца лепшага жыцця і зрабіць кар'еру. Іншымі словамі, для літоўскіх татар у той час вайсковая служба стала адзінай лесвіцай на верх грамадства. Гэтую лесвіцу выкарыстаў адзін з сыноў Аляксандра Канапацкага Асан. У 1797 годзе, адразу пасля стварэння Літоўска-татарскага палка, ён запісаўся туды "таварышам" і праслужыў 20 год (да 1817 г.). Ён прымаў удзел у Айчыннай вайне 1812 г. і ў бітве пад Гарадзечнам атрымаў знак



ордэна Аўгуста. У адстаўку ён выйшаў у званні паручніка і атрымаў за службу маёнтак Паджукаўка пад Мінскам з трыма сем'ямі сялян.

Становішча ж братоў Асана, што жылі ў Смілавічах, ніяк не змянілася.

Змены адбыліся толькі ў 30-х гадах XIX ст., калі ў выніку агульнага эканамічнага крызісу гаспадаркі Расейскай імперыі ўзровень жыцця Канапацкіх і Хасяневічаў рэзка знізіўся. Галоўным чынам ад простых сялян яны адрозніваліся толькі сваімі саслоўнымі правамі. Удакладнім, у чым жа яны заключаліся. Папершае, як я ўжо адзначаў, татары не ўключаліся ў падатковыя спісы, а значыць не плацілі падушны падатак. Па-другое, для іх дзейнічалі асобныя юрыдычныя нормы адказнасці за свае ўчынкі, зразумела, даволі лёгкія. У-трэціх, дзяржава абараняла іх годнасць дваран. Як мы бачым, правы даволі значныя. Але на татар распаўсюджвалася адно сур'ёзнае абмежаванне і яны не мелі доступу да ўлады і былі пазбаўлены палітычных правоў. Гэта абмежаванне існавала ў Расейскай імперыі як і ў Рэчы Паспалітай.

Прычынай тут быў Іслам. Ён дайшоў да разглядаемага часу амаль што без зменняў: татары цвёрда захоўвалі сваю веру. І гэта пры тым, што пераход у хрысціянства даваў магчымасць не проста палепшыць сваё жыццё, а нават трапіць у склад палітычнай эліты. Так вядома, што знакамітыя князі Глінскія мелі татарскія карані і, перайшоўшы ў хрысціянства, далучыліся да ліку буйных магнатаў.

Відавочна, што гэта абмежаванне палітычных правоў у многім і стала прычынай дрэннага становішча літоўскіх татар. Канапацкія і Хасяневічы тут не выключэнне.

Наступнай значнай падзеяй у жыцці гэтых родаў стала вызначэнне іх паходжання па загаду Сената 6 сакавіка 1819 года. Мэтай гэтага загаду было праверыць правы татарскіх родаў усходніх губерній на дваранства. Галоўным крытэрыем яго зацвярджэння было валоданне продкамі зямлёй. Акрамя таго, трэба было прадставіць генеалагічнае дрэва, па якім вызначыць родапачынальніка.

У 1823 годзе адбыўся опіс дваранскіх сем'яў – таксама важная падзея, бо опісы гэтыя праводзіліся перыядычна і ўлічвалі ўсіх нованароджаных у гэтых сем'ях. Паўстанне 1830-1831 гг. на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, у якім дробнае дваранства прымала самы актыўны ўдзел, выклікала пасля яго падаўлення шэраг мер па кантролю за гэтым саслоўем з боку дзяржавы. Так, напрыклад, у 1833 годзе з мэтай удасканаліць кантроль за дваранствам уводзіцца практыка выдачы метрык дзецям мужчынскага полу, народжаным ад законнага браку. Метрыкі выдаваў і рэгістраваў мула. Акрамя гэтага зноў праходзіць шэраг праверак дваранства для некаторых родаў. Так, у 1840 годзе Герольдыя



Мустафа Асановіч.

ў выніку праверак дакументаў Хасяневічаў палічыла іх недастатковымі для зацвярджэння дваранства. І гэта нягледзячы на выйікі опісу 1823 года.

Таксама былі пашыраны выпадкі адмаўлення ў дваранскіх правах асобным людзям, якія альбо страчвалі свае дакументы, альбо не былі ў свой час зарэгістраваны ў мячэці сваімі бацькамі. Дарэчы, да такіх выпадкаў мы яшчэ вернемся.

Тым часам агульнадзяржаўны крызіс першай паловы XIX ст. набіраў моц. Яго эканамічныя праявы вельмі моцна ўдарылі па Канапацкіх і Хасяневічах. У справах Мінскага Дваранскага сходу 29 мая 1852 года адзначаецца, што Канапацкія не могуць зрабіць перавод дакументаў на гербавай паперы "по совершенной бедности". Але крызіс гэты не абмяжоўваўся толькі эканамічным пагаршэннем жыцця. У 60-х гадах XIX ст. праходзіць шэраг спраў аб злачынствах у асяроддзі смілавіцкіх татар. Па адной з такіх спраў праходзілі Сцяпан і Мустафа Палтаржыцкія, Адам Асановіч і Іосіф Хасяневіч, якія пабілі Аміню Палтаржыцкую. Прычым усе парушальнікі ссылаліся на сваё дваранскае паходжанне і непадсуднасць.





Мяр'ема Асановіч з праўнукам.

Асобае месца, мне здаецца, займае некалькі спраў аб крадзяжы і канакрадстве, учыненыя Канапацкімі і Хасяневічамі. Цікава тое, што яны хоць і насілі гэтыя прозвішчы па дакументах, да гэтых родаў не належалі. Хутчэй за ўсё гэта былі ўсё ж прадстаўнікі гэтых сем'яў, якія самі, альбо іх продкі страцілі дваранства. Уявіце сабе, што страціўшы пры гэтым беспадатковы статус, яны апынуліся ў сапраўднай беднасці, бо гэта былі часы мацнейшага крызісу. Ці маглі яны, ведаўшыя аб сваім дваранстве і выхаваныя на гэтым, трываць у такім становішчы? Ну безумоўна, не. І яны знайшлі выйсце ў крадзяжы. Гэта была і спроба выправіць сваё становішча, і своеасаблівая помста той дзяржаве, якая пазбавіла іх спадчынных правоў.

Рэформа 1861 года (адмена прыгонніцтва) напрамую ніяк не паўплывала на становішча літоўскіх татар: прыгоннымі яны практычна не былі, а зямлю як арандавалі ў памешчыкаў, так і прадаўжалі арандаваць. Уздзеянне гэтай рэформы было ўскосным і вельмі значным, тым не менш, для лёсаў многіх беларускіх татар. Справа тут у тым, што пасля 1861 года ў Расіі адкрыліся магчымасці для развіцця капіталізму. Адбываліся змены як у эканамічным жыцці, так



Соф'я Канапацкая.

і ў структуры дзяржаўнага кіравання. Яно значна пашырылася і запатрабавала новыя кадры. Пайшоў працэс узмацнення і павелічэння чыноўніцкай бюракратыі. Трапіла ў яе склад у асноўным дробнае дваранства. Стаўшы чыноўнікам, можна было зрабіць добрую кар'еру і значна палепшыць узровень жыцця. Так з'явілася новая лесвіца наверх.

Амурат Канапацкі паступіў у Мінскае Губернскае праўленне. Там ён прайшоў шлях ад простага справавытворцы да тытулярнага саветніка. Ён здолеў набыць памесце Марцэбелішкі недалёка ад Смілавіч. Свайго сына Гасана ён уладкаваў у гімназію. Мінская галіна Хасяневічаў таксама дала шмат чыноўнікаў.

Такое палажэнне мела месца аж да 1917 года, калі Кастрычніцкая рэвалюцыя здолела разбурыць усе існуючыя структуры грамадства.

Менавіта т.ч. складваўся лёс гэтых родаў смілавіцкіх татар на працягу амаль трох стагоддзяў. Разгляд гэтага доўгага шляху дае шэраг падстаў для пэўных высноў.

Безумоўна, трэба адзначыць, што татарам удалося стаць арганічнай часткай грамадства спачатку Вялікага княства, а потым і Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі, не страціўшы пры гэтым асабістага аблічча. Гісторыя гэтага народа прадстаўляе цікавасць, як мне здаецца, не толькі для этнаграфіі, а для гісторыі ў цэлым. Сапраўды, нельга не задацца пытаннем, як такі не вельмі шматлікі народ здолеў на працягу 6 стагоддзяў стрымліваць этнічны напор славянскага суперэтнасу? На падставе гэтай працы, я лічу, што на тое мелася некалькі прычын.



Па-першае, этнічная сіла літоўскіх татар, якая галоўным чынам праявілася ў іх вернасці Ісламу. Па-другое, зацікаўленасць славян у некаторых здольнасцях татар (напрыклад, да ваеннай справы, да рамёстваў і г.д.). У-трэціх, адносіны татар да славян: успрыманне многіх звычак, адданасць агульным мэтам пры захаванні галоўных асаблівасцей сваёй культуры і светапогляду. І ў-чацвёртых, унікальны сацыяльны і эканамічны, палітычны статусы, якія спрыялі стабільнасці ў адносінах паміж славянамі і татарамі.

Смілавіцкія татары, разгледжаныя ў гэтай працы, з'яўляліся тыповымі прадстаўнікамі свайго народа. А таму, дзякуючы гэтаму, далі магчымасць зазірнуць у мінулае літоўскіх татар і атаясаміць яго з канкрэтнымі людзьмі і жыццёвымі шляхамі.

Гісторыя літоўскіх татар надзвычай нераспрацавана. Выкарыстанне нават такога невялікага кола крыніц дало магчымасць скласці пэўнае ўяўленне аб адным з перыядаў гэтай гісторыі. Перспектыў тут шмат. Я б жадаў, каб мэтай гісторыі беларускіх татар стала аднаўленне сапраўднага вобраза нашых продкаў ва ўсёй яго паўнаце. Задача гэта досыць складаная. І мне здаецца, што выканана яна будзе толькі тады, калі ў мінулым мы ўбачым сапраўднага жывога чалавека, а не шэраг бязлікіх фактаў і гістарычных помнікаў. А для гэтага трэба працаваць.

**А. Курыла.**

***

**Воспоминания**

# СЫН ОБ ОТЦЕ

В многовековых, трудно охватываемых знаниями польско-белорусских связях на каждом поле совместного проживания славянских народов нашёлся эпизод этого столетия, который вошёл в семейную традицию автора статьи. Прежде, чем опишу этот эпизод, хочу признаться: ничто, что находится на окраине (на отдалении), не чуждо для меня, наоборот, очень дорого!

Таким высказыванием хочу показать, почему так сердечно охватываю внутренним миром пространство, на котором проживают вот уже 600 лет мои мусульманские единоверцы татарского происхождения, и как считают они его (пространство) своим по своему духовному ощущению.

Ничего не значат границы государств, в которых проживают татарские исследователи Ислама. Общие исторические судьбы, особенно кровные связи, объединяющие нас с Польшей, Беларусью и Литвой, делают мне близкими эти страны. Таким образом, в моём сознании существует какая-то частичка старой Речи Посполитой и это не только обоих народов.

А в чём же суть эпизода?

Семейные документы показывают, как переплетаются в который-то раз судьбы поляков и белорусов, а в данном случае – в начале текущего столетия.

Наш отец, родом из Минска, Хасан Канапацкий, связался с белорусским движением за независимость в начале текущего века. В перерывах во время учёбы в Артиллерийской школе им. Константина в Петербурге, которую окончил в 1897 г., находясь у родителей на ул.Малая Татарская, постепенно сближался с этим движением. Тогда не были чуждыми и польские идеи свободы на Беларуси, имевшие свои корни в прежних общих восстаниях, в которых истекали кровью лучшие представители обоих народов. Из воспоминаний отца помню, что он в 1919 г. бывал на квартире Янки Купалы, а это за год до развёртывания деятельности по формированию белорусских отрядов. А произошло это на основе декрета от 22 октября 1919 г., подписанного будущим маршалом Речи Посполитой Юзефом Пилсудским. Этот документ констатировал: "Полковника Хасана Канапацкого, предложенного мне Белорусской Военной Комиссией, назначаю командующим Белорусской армией. Местом формирования Белорусской армии определяю Слоним. С целью организации и проведения подготовительной работы назначаю Белорусскую Военную Комиссию, которая по согласованию с Комиссариатом Восточных Земель и КОГ (Командованием Округа Гродно) будет организовывать Белорусскую армию...".



Следует подчеркнуть, что главным образом благодаря Янке Купале были выработаны проекты национальных и военных символов, которые тогда находили применение в условиях рождающейся независимости этого народа. Отец с огромным уважением сохранял некоторые символы, отрезки обмундирования, ценные фотографии, вырезки публикаций. Всё это сохранилось и по сегодняшний день, но впервые этим наследием отца занялась д-р Елена Глоговская, политолог Гданьского университета, автор пионерских (первых, впервые опубликованных), основательно обработанных о том эпизоде публикаций, например в "Белорусских исторических тетрадях", издаваемых Белорусским историческим обществом в Белостоке. А в сентябре прошлого года на нашей квартире в Сопоте была открыта экспозиция вещей отца в связи с "Летними днями Белорусистики", организованными "Беларускай Хаткай". Во всём этом мероприятии участвовали гости из Гродно, Вильнюса и из нескольких университетских центров Польши.

Возвращаясь к минским годам отца (он тогда был в ранге полковника и командовал в Первой мировой войне против Германии 69-й Бригадой полевой артиллерии) припоминаю, что отец включался в деятельность белорусской интеллигенции, входившей в общество "Беларуская Хатка". Именно здесь расцветала театральная жизнь, здесь любители белорусской народной сцены ставили спектакли Я.Купалы. И отец вносил определённый вклад в это дело, а в межвоенный период, в Вильне, был вице-председателем Совета Старейшин Белорусского музыкально-драматического кружка. Сохранилась визитка отца, подтверждающая его эту общественную позицию, там же записано, что одновременно он выполняет обязанность секретаря Белорусского Общественного Собрания. Кстати, можно отметить, что отец принадлежал к группе людей, идейно предрасположенной к Речи Посполитой и, как он говорил, Купала с этим движением был солидарен.

Читатель уже сможет сориентироваться, какой климат господствовал в нашей виленской межвоенной квартире Елены и Хасана Канапацких. Добавлю ещё, что отцу не были чужими дела возрождающегося после Первой мировой войны Литовского государства. Оказывается, по его воспоминаниям, он участвовал в создании теоретических основ артиллерии этой страны. Сохранился оригинал документа, изданного Министерством Внутренних Дел Литвы в 1921 г. в тогдашней столице Каунасе, извещающий, что отец был членом так называемой Литовской Восточной Комиссии.

Подобные судьбы многих татар были на этих землях, и их сердца были связаны с этими землями. В своей деятельности в различных сферах жизни они были объединительной цепочкой между Польшей, Беларусью и Литвой. Моему народу были чужды антагонизмы, дающие знать о себе иногда между этими народами и иногда существенно подпитываемые чуждыми силами и даже инспирированные специально. Это уже совершенно другая тема…

Не удивительно, что после последней войны мне тоже пришлось включиться в белорусское движение в Польше. Напомню только, что работал я в белорусскоязычном журнале "Нива", издаваемом в Белостоке. На страницах журнала я представлял малоизвестные или совершенно новые материалы о работе польско-белорусских культурных связей, особенно литературных. Однажды я получил большое удовлетворение, когда профессор Адам Мальдис сказал, что некоторые мои публикации рекомендуются студентам белорусской филологии в качестве дополнительной литературы. Можно добавить, что когда в 60-х годах я провёл интервью с шурином Янки Купалы, братом тёти Влади, Винцентом Станкевичем в Люблине, то с волнением слушал его воспоминания о нашем отце. Все ведь встречались в 1919 г. в семейном кругу на улице Казарменной в Минске (ulica Koszarska – koszary (pol.) – казармы). В.Станкевич дополнил мои знания о том времени в жизни молодой минской интеллигенции.

Я поделился с читателем, главным образом, военным эпизодом в деятельности отца. Этот период был коротким, не получилось особых достижений, тем более, что дальнейший ход событий, известный нам из истории обоих народов, уничтожил те высокие намерения.

**Матвей Канапацкий**
**(Из квартальника "Magazyn Polski",**
**перевод И.Александровича).**

***



## ЗАСЛУЖАНАМУ РАБОТНІКУ С.Х. АЛЕКСАНДРОВІЧУ ПАКУЛЬ ШТО ТОЛЬКІ… ГАНАРОВЫ ЛІТАРАТУРНЫ ПОМНІК

**…Ад аднаго добрага чалавека**
**ўжо ўвесь свет робіцца лепшым.**

Мікалай Гарын-Міхайлоўскі,
рускі пісьменнік.

Асабіста я не ведаў беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы, краязнаўцы, педагога, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка культуры, гераічнага і мужнага (аб гэтым гаворыць і ордэн Славы, якім ён узнагароджаны), святога чалавека і патрыёта Бацькаўшчыны Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, а вось так адбылося, што яго кніга "Тут зямля такая" (Мінск, "Народная асвета", 1974) прайшла разам са мною такія вайсковыя гарнізоны як Уруччанскі, што пад Мінскам, Кяхцінскі (Бурація), Улётаўскі, Дутаўскі, Арэйскі (Чыцінская вобласць), Васільеўскі (Амурская вобласць), Дангузскі (Арэнбургская вобласць), Слуцкі і на сёння абсталявалася ў Баранавічах. Яна і сёння з'яўляецца маім настольным і каштоўным набыткам, які толіць маю смагу ў пазнанні праўды нашай гісторыі, культуры, літаратуры…

Імя Сцяпана Александровіча на беларускім зорным небасхіле – асаблівае, зіхатлівае, магнетычнае… Ён пакінуў пасля сябе ўнушальную спадчыну, а яшчэ мноства вучняў… Ён уклаў сваю залатую і ўнікальную цагліну, дык аб чым гавару, неабсяжны небасхіл іх у падмурку нашай багатай, непазнанай і зняважанай культуры, і меў вялікую любоў, пашану і прызнанне сярод адраджэнцаў нашай Бацькаўшчыны. Нездарма Сцяпана Хусейнавіча лічаць лепшым, верным і надзейным сынам двух народаў – беларускага і беларускіх татараў. Александровіч валодаў вялікім дарам і талентам прываблівацьда сябе працалюбівых і руплівых людзей, ён не любіў трутняў, прыстасаванцаў, асабліва здраднікаў роднай культуры, гісторыі, літаратуры, мовы. Апошнія яго страшэнна ненавідзелі, але такім быў крынічна чыстым, сумленным, яркім, адметным, самабытным, арыгінальным, унікальным Сцяпан Хусейнавіч, працалюбам, што яны, нават такі жорсткі чалавек, як сумнавядомы Лаўрэнцій Абэцэдарскі, так і не змаглі скарыць яго.

Значэнне імені Александровіча, яго заслугі ва ўхвалу Бацькаўшчыны, мне так здаецца, з кожным годам будуць узрастаць, на яго яскравым прыкладзе беззапаветнага служэння людзям, краіне будзе навучацца ўвесь беларускі на-

род, а дзяржава разам з яго вучнямі і яго супляменнікамі – беларускімі татарамі – выдасць урэшце рэшт Поўны Збор Твораў Падзвіжніка, усталюе ў яго родным Капылі і ў Менску бронзавыя бюсты, а лепшыя і прыгажэйшыя вуліцы, скверы і плошчы будуць названы яго іменем...

Напрыканцы 1991 г. ў Доме пісьменнікаў (Фрунзе, 5) адбылося мерапрыемства, прысвечанае 70-годдзю са дня нараджэння Сцяпана Хусейнавіча. Гэта была ініцыятыва Згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" на Беларусі. У малую залу тады сабраліся беларускія татары, пісьменнікі, сябры і паплечнікі, вучні Александровіча, а 19 снежня 1996 г. ў Дзяржаўным Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (дырэктар Зінаіда Мікалаеўна Камароўская) адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам С.Х.Александровіча.

Вынікам гэтага пасяджэння стаў бліскучы друкаваны твор пад зялёнай вокладкай – "Навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, (1921-1986). Матэрыялы канферэнцыі" (Мінск, 1998), які мае 152 старонкі.

Рэдакцыю гэтага ўнікальнага зборніка ажыццявілі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР, выдатнейшы энцыклапедыст, адказны рэдактар квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" Якуб (Якаў) Адамавіч Якубоўскі, руплівейшы грамадскі і рэлігійны дзеяч, вучоны і педагог, кандыдат гістарычных навук Ібрагім Барысавіч Канапацкі, які ўсемагутны талент сваёй арганізатарскай справы шчодра аддае людзям.

Выданне здзейснена пад патранажам Дзяржаўнага Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ, Дзяржаўнага Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, рэспубліканскага Цэнтра нацыянальных культур, Беларускага рэспубліканскага фонда фундаментальных даследаванняў, Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь. А сама канферэнцыя праходзіла яшчэ пад эгідай Міністэрства культуры РБ і Згуртавання наваградцаў свету.

У кнізе няма ніводнага выпадковага чалавека, усе яго любілі, цанілі, знаходзіліся пад яго цудадзейным магнетычным уплывам, сваю вялікую і шчырую незгасальную памяць, павагу і любоў, энергію да гэтага Апостала яны ўражліва, ярка, цікава, павучальна і пазнавальна данеслі ў сваіх матэрыялах.

Зборнік пачынаецца са зместа, за ім ідзе партрэт Сцяпана Хусейнавіча і яго біяграфія, напрыканцы кнігі дадатак – гэта "Зварот ініцыятараў канферэнцыі", сярод іх Алена Аўрынская, Анатоль Белы, Чэслаў Вайткевіч, Вінцук Вячорка, Тэрэза Голуб, Яўген Гучок, Эмануіл Іоффэ, Вольга Казлова, Зінаіда Камароўская, Аляксей Каўка, Лілія Коршун, Яўген Лецка, Алег Лойка, Леанід Лыч, Адам



Мальдзіс, Віктар Мацюшэнка, Віктар Мінько, Аляксей Рагуля, Іван Саламевіч, Віталь Скалабан, Ганна Сурмач, Анатоль Сарокін, Алена Трусава, Леанід Харкевіч, Іван Цішчанка, Таццяна Якубоўская, Язэп Янушкевіч, "Родныя мясціны Сцяпана Александровіча", падрыхтоўку іх зрабіў Якуб Адамавіч Якубоўскі, "Бібліяграфія", зробленая з вялікім мастацтвам, густам і прафесійным майстэрствам Г.І.Рэут, нататкі "Што застаецца ў маёй памяці пра 75-ыя ўгодкі нараджэння Сцяпана Александровіча", якія заканчваюцца словамі: "Вельмі пашчасціла Сцяпану Хусейнавічу, што яму ў жыцці трапілася Марыя Лукінічна. На канферэнцыі выступілі з дакладамі і прамовамі паважаныя ў Беларусі людзі, яны хораша гаварылі пра шчырага патрыёта Радзімы, пра сям'ю Сцяпана. Вельмі хораша гаварыла Марыя Лукінічна, многія падумалі, што не дзіва было тое, чаму так плённа працаваў пісьменнік, бо спрыяла яму, была добрым дарадчыкам такая абаяльная і разумная жанчына. Мы можам быць задаволены, што плён працы Сцяпана Александровіча – гэта вынік прыродных даных, таленту, працавітасці і разумення добрай і разумнай сяброўкі жыцця". Яны належаць нябожчыку Якубу Адамавічу Якубоўскаму, які так і не змог пабачыць адзін са сваіх шматлікіх і шматгранных твораў – гэтую друкаваную працу. А завяршае гэты зборнік "Генеалагічнае дрэва роду Александровічаў".

Першым сярод матэрыялаў ідзе "Уступнае слова", якое зрабіў па даручэнню Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Ібрагім Барысавіч Канапацкі. Шчыра скажу, што мяне вельмі ўскалыхнулі-захвалявалі яго радкі:- "Няхай жа ва ўсіх галінах практычнай, навуковай, культуралагічнай дзейнасці знойдзецца свой першы, няхай яго ведаюць усе татары Беларусі, калі гэтага чалавека прызнаюць нечага вартым нашы добрыя сябры – свядомыя беларусы".

Мудрыя народны пісьменнік Янка Брыль і народны паэт Ніл Гілевіч прысвяцілі Сцяпану Хусейнавічу свае "Вобраз і сімвал" і "Яго слова, як і памяць аб ім, жыве", а муфтэй беларускіх мусульман І.М.Александровіч – "Нашыя карані".

Аўтар гэтых радкоў напісаў артыкул "Сцяпан Александровіч і Баранавічы", гэта пра дзівоснае ўражанне ад яго літаратурнай спадчыны, а найбольш пра красамоўны краязнаўчы матэрыял "Баранавічы", надрукаваны ім у часопісе "Беларусь" (№ 12, 1953 г.). "... ствараецца такое ўражанне, што артыкул "Баранавічы" менавіта пісаў чалавек, які нарадзіўся, рос, вучыўся і будаваў гэты самы горад. І пачынаецца ён любоўна, з добрым веданнем яго лепшых крокаў жыцця: "Сасновы бор сярод пясчанай раўніннай мясцовасці, невялікі драўляны маёнтак з гаспадарчымі пабудовамі, старая збуцвелая карчма пры тракце з Нясвіжа ў Новую Мыш... вось што было сто гадоў таму назад на тым месцы, дзе знаходзяцца сёння Баранавічы".

Журналістка – знакамітая Ірына Крэнь – зрабіла шмат сваіх унёскаў у прапаганду культуры неаддзельнай і састаўной часткі Беларусі – татарскага народа, свой матэрыял, прысвечаны Сцяпану Хусейнавічу, яна назвала проста і прама "Сын двух брацкіх народаў": "Памёр Сцяпан Хусейнавіч 1 траўня 1986 г., заўчасна. Прафесар Леанід Лыч у сваім артыкуле "Татарскі класік беларускага народа" сказаў пра яго так: "Беларускі пісьменнік татарскага паходжання па крыві належыць да татарскай нацыі, а па зместу, характару сваёй дзейнасці – да беларускай. Гэта ў поўным сэнсе слова, сын двух народаў".

Л.В.Камароўская, старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ажыццявіла адну з высакародных мэт, якая была ў цэнтры ўвагі Сцяпана Хусейнавіча, – гэта "Праблема гуманізму і маральнасці ў творах С.Х.Александровіча "Далёкія зарніцы" і "На шырокі прастор".

Доктар гістарычных навук, вядомы вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ Л.М.Лыч – гэта сапраўдны і незгасальны свяцільнік пазнання амаль кожнага рупліўца Беларусі – даў выключна глыбокае і павучальнае даследаванне: "Газета "Наша ніва" у творах Сцяпана Александровіча". Леанід Міхайлавіч падкрэслівае: "Нельга аспрэчваць і самую агульную характарыстыку Сцяпанам Александровічам "Нашай нівы": яна "была тым выданнем, у якіх найбольш ярка і вобразна адлюстравалася складанае і супярэчлівае грамадска-палітычнае жыццё Беларусі, была тым цэнтрам, вакол якога групаваліся асноўныя творчыя сілы нашага народа".

"Тое, что помніцца" – гэтая слоўная жамчужына належыць доктару філалагічных навук, старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мастацтвазнаўства А.С.Лісу.

Літаратар Я.А.Кіммель даследаваў творчасць С.Х.Александровіча ў напрамку яго дасягненняў як гісторыка, а выдавец і паэт Я.С.Гучок уклаў сваё "Слова-успамін пра Сцяпана Александровіча".

Непараўнальны А.П.Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, прафесар, пайшоў углыб стагоддзяў і прапанаваў матэрыял "Татарскія паселішчы ў Слуцкім і Капыльскім княстве ў XVI – XVII ст.ст.".

Неаднаразова мне прыходзілася здалля бачыць, чуць, а яшчэ чытаць у кнігах доктара філалагічных навук з Інстытута сусветнай літаратуры імя А.М.-Горкага з Масквы А.К.Каўку, у маёй шматлюднай бібліятэцы ёсць шмат цікавага з яго твораў. Ён дае свой хвалюючы філасофскі роздум "Слова ў часе і прасторы", а пачынае ён яго так: "Кожны новы этап беларускага адраджэння вяртуе свае ідэі, вылучае новых падзвіжнікаў, наколькі служэнне беларушчыне ў Беларусі ці не скрозь было і застаецца подзвігам. У свой час Вядзьмак Лысагорскі ў знакамітай паэме дасціпна, адпаведна законам бурлескнага жанру, а па сутнасці і адэкватна вызначыў месца і ролю ў нашай славеснасці гэтага нястомнага шукальніка-адкрывальніка духоўных скарбаў. Яшчэ пры жыцці творца ў асяроддзі ягоных вучняў, маладзейшых калег нарадзілася і прыжылося высокае азначэнне "школа Александровіча".



Што ні гаварыце, а "школа Александровіча" можа і не мае дасюль афіцыйнай шыльды, але яна дзейсна жыве, працуе і плодна дае свае ўраджаі. І мушу я поўнасцю пагадзіцца з А.К.Каўкай: "І ў гэтым сэнсе культурная спадчына Татарына-Беларусіна Сцяпана, сына Хусейнавага будзе доўга-доўга служыць прасвятленню чалавека і міжчалавечых адносін – дзеля Праўды, Міласэрнасці, Хараства".

Кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела навукова-даследчага Інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы Я.І.Янушкевіч сваё выступленне назваў так: "Самы лепшы помнік пісьменніку – выданне і перавыданне яго твораў… Сцяпан Хусейнавіч – тэкстолаг і выдавец".

Прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны Дз.Я.Бугаёў адгукнуўся даследаваннем "Выдатны літаратуразнаўца, талковы крытык", а даследчык Л.П.Мірачыцкі "Будзіцель. Творца. Адраджэнец".

Справядліва доктара філалагічных навук, галоўнага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Г.В.Кісялёва называюць у поўным сэнсе слова крыміналістам літаратурнай даследчыцкай справы. У сваёй працы ён узнёсла гаворыць – гэта ў "С.Александровіч – даследчык беларускай літаратуры XIX ст.": "Абсягі творчых зацікаўленняў Сцяпана Александровіча былі надзвычай шырокія. Коласазнаўства, купалазнаўства, жыццёвы і творчы шлях Кузьмы Чорнага і Цішкі Гартнага, сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі іншых народаў, станаўленне нацыянальнага друку і многае-многае іншае. Вялікі ўклад ён зрабіў у вывучэнне беларускай літаратуры XIX ст.".

Паэт, заслужаны дзеяч культуры Беларусі М.Я.Аўрамчык у сваіх словах "Слаўны сын татарскага народа" значна дапаўняе сваіх папярэднікаў. Ён гаворыць: "Я ганаруся блізкасцю і сяброўствам са Сцяпанам Александровічам".

З прамяністай прамовы доктара хімічных навук, вядомага навуковага супрацоўніка Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Х.М.Александровіча "С.Х.Александровіч – достойный представитель татарского меньшинства" вельмі пачціва выдзяляюцца такія радкі: "Степан Хусейнович был достойным представителем малой славяно-язычной этнографической группы белорусско-литовских татар…".

Доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя М.Танка Э.Р.Іофе прысвяціў сваё выступленне тэме, як Сцяпан Алексан-

дровіч даследаваў творчасць Змітрака Бядулі. Як удзельніку шматлікіх беларуска-татарскіх мерапрыемстваў, мне хочацца асабіста выдзеліць гэтага дакладчыка. Ён пастаянны і нязменны даследчык узаемасувязяў і ўзаемадачыненняў беларусаў, яўрэяў і татараў, іх брацкай культуры, літаратуры, гісторыі.

Э.Р.Іоффэ знаходзіць у гэтым напрамку свою моц і сілы, энергію, ён падмацоўвае свае думкі і назіранні глыбокім прачытаннем, веданнем і ўплывам творчасці абодвух класікаў на беларускі народ, ён падкрэслівае: "Прадстаўляючы творчасць Змітрака Бядулі мільёнам беларускіх дзяцей, С.Александровіч пісаў: "У адным выпадку З.Бядуля – тонкі і назіральны мастак-пейзажыст, пад пяром якога ўсімі колерамі вясёлкі ззяе беларуская прырода. У другім выпадку З.Бядуля выступае дасціпным і ўдумлівым казачнікам. Пісьменнік умее будаваць казкі так, што ў іх ёсць вастрыня і займальнасць, а таксама пэўная важная і глыбокая думка".

Даследаванне С.Х.Александровічам творчасці Змітрака Бядулі прадстаўляе сабой сур'ёзны ўклад у беларускае літаратуразнаўства.

"Влияние национально-культурного окружения Копыля на формирование творческой биографии С.Х.Александровича" – гэта назва даследавання І.П.Герасімавай, дырэктара адукацыйных праграм Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра. Тут цікава даведацца пра асоб-творцаў, акрамя С.Х.Александровіча, і беларуса Ц.Гартнага, яўрэяў Мендэля Мойхер-Сфорыма, А.Паперна, Л.Клейнбарта.

А пісьменнік У.І.Содаль расказвае пра адзін з падарункаў, які, як заўсёдна, мог здатна рабіць С.Х.Александровіч.

Я перагортваю апошнюю старонку "Навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 75-м угодкам Сцяпана Хусейнавіча Александровіча..." і як бы працягваю вясці бяседу з ім, з яго сябрамі, паплечнікамі, вучнямі і проста добрымі людзьмі і перада мной паўстае Вялікі, Незямны Чалавек, які на шматпакутнай зямлі Беларусі, на яе Літаратурнай, Навуковай, Моўнай, Педагагічнай, Культурна-Асветніцкай, Краязнаўчай і Іншых Раллях пакінуў Свядомы, Моцны, Глыбокі, Трывожача-Хвалюючы Боскі След, які так і застанецца на гэтай пакуль што расійскамоўнай тэрыторыі, падкрэслю яшчэ раз, тэрыторыі, бо на ёй пакуль што няма ні вуліцы, ні сквера, ні плошчы, ні помніка С.Х.Александровіча, але калі назавуць прамежкі паміж дамамі, усталююць Бронзавы Бюст Песняра – Беларускага татарына – то гэта ўжо будзе Святая Зямля Беларусі.

**Міхась Маліноўскі.**

***



## С. ГРАХОЎСКАМУ – 85

Гэты год – год 85-годдзя паэта зямлі беларускай – Сяргея Іванавіча Грахоўскага. Мы не маглі не павіншаваць юбіляра. І не толькі таму, што ў яго вачах, як піша ў адным са сваіх вершаў Сяргей Іванавіч, паэт Віталь Вольскі бачыць татарскія рысы. Мы разам з тымі, хто вітае паэта, таму што ў яго вялікім сэрцы ёсць месца кожнаму жыхару яго любай Беларусі, а значыць і нам. Ён захоўвае ў сваёй светлай памяці выявы мінскай мячэці і падтрымлівае наша імкненне да яе ўзнаўлення.



Вечар С.І.Грахоўскага. С.І.Грахоўскага віншуюць І.Канапацкі і Р.Александровіч. Колосаў дом, 1.10.1998 г.



Мы, група навучэнцаў педкаледжа, з вялікім задавальненнем прынялі запрашэнне Літаратурнага музея Якуба Коласа прыняць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных С.Грахоўскаму. У Коласаў дом быў запрошаны сам паэт і яго блізкія сябры. Было сказана шмат шчырых, цёплых слоў у адрас паэта. Выступалі Генрых Далідовіч – рэдактар часопіса “Маладосць” (ён і вёў вечарыну), Мікола Аўрамчык, які, па словах С.І.Грахоўскага, быў “пасляваенным першадрукаром” вершаў Сяргея Іванавіча. Ібрагім Канапацкі і Разалія Александровіч – татары па нацыянальнасці – выказалі сваю глыбокую павагу да творчасці Сяргея Грахоўскага, ды і не дзіва: слухаючы іх мову, правільную, мілагучную, можна было ўпэўніцца, што яны сапраўды паважаюць беларускі народ і шануюць нашу родную мову.

Шчыра віталі імянінніка Уладзімір Скарынкін – перакладчык, паэт, Міхась Пратасевіч – супрацоўнік Літаратурнага музея Петруся Броўкі, сын Якуба Коласа – доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, выкладчыца нашага каледжа Валянціна Раманцэвіч. Прысутныя з замілаваннем слухалі вершы ў выкананні артысткі Марыі Захарэвіч і навучэнкі педкаледжа Наталлі Канаш.

Добры падарунак Сяргею Іванавічу падрыхтавалі прадстаўнікі са Стаўбцоўшчыны: вялікі каравай і цудоўны канцэрт.

Напрыканцы вечарыны слова ўзяў і сам С.І.Грахоўскі, прачытаў свае вершы, расказаў пра цікавыя выпадкі з жыцця.

**Вольга Бушмакіна,**
**навучэнка каледжа**





**Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,**
**Дарогі – у ячменнай пацярусе.**
**Дубовы ліст, у жылках і ў расе,**
**Мне нагадаў абрысы Беларусі.**

**Яго мая кранаецца рука,**
**А ён нібыта выкананы з броні,**
**І жылка кожная дубовага лістка**
**Злілася з кожнай жылкай на далоні.**

**С.Грахоўскі. Дубовы ліст.**

## ДУБОВЫ ЛІСТ

Дубовы лісток – маленькая далонька дуба, маленькае адлюстраванне жыцця магутнага дрэва. Дубовы ліст нагадвае сваімі абрысамі Беларусь, жыццё Сяргея Грахоўскага – адлюстроўвае жыццё Беларусі. Па лініях жыцця гэтага паважанага чалавека можна прачытаць жыццё Беларусі, прасачыць лёс людзей, якія былі “душой, як ланцугом, прыкуты да Беларускае зямлі...” Але існуюць рэжымы, іх стваральнікі, ахоўнікі і служкі, якія ў повязі чалавека з роднай зямлёй бачаць небяспеку для свайго спакою. І тады арганізоўваюцца разнастайныя перасяленні, у большасці прымусовыя, тады лісткі жывымі зрываюць з дрэва, раскідваюць іх у розныя бакі, а пасля чакаюць, калі лісткі, пазбаўленыя магчымасці падтрымліваць сваё жыццё сокамі роднай зямлі, ссохнуць. Ссохнуць лісты. Але толькі не дубовыя. Яны і адарванымі ад дрэва не перастаюць змагацца за сваё жыццё, яны ператвараюцца ў бронь, а іх звон чуваць далёка.

Сяргей Грахоўскі быў адарваны ад дрэва Беларусі маладым, набіраючым моц. Студэнт філалагічнага факультэта БДУ, ён стаў “ворагам народа” за тое, што шанаваў свой народ, любіў родную мову, марыў стаць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры.

Марыў і верыў у светлую будучыню свайго народа. А тое, што верыў, так гэта дакладна. Верыў новай уладзе, як і многія з тых, хто падзяліў з ім лёс выгнаннікаў. У свае чатырнаццаць гадоў усляўляў Леніна, называў сябе яго паслядоўнікам у першым друкаваным вершы, змешчаным у газеце “Піянер Беларусі” ў 1926 г. А праз дзесяць гадоў ён ужо быў высланы ў Горкаўскую вобласць. Вярнуўся на Беларусь толькі пасля дзесяці гадоў працы на лесараспра-

цоўках. І гэта было яшчэ не ўсё. З 1949 г. – вечнае пасяленне ў сяло Біяза Навасібірскай вобласці. У 1955-ым поўнасцю рэабілітаваны. У 1956 г. вярнуўся ў Мінск ужо назаўсёды. Дваццаць без малога гадоў з дадзенага яму жыцця правёў Сяргей Іванавіч на чужыне. Але і там ён жыў па чалавечых законах. Сам пабудаваў у тайзе дом, у ім гадаваў разам з жонкай дваіх дзяцей. Пасадзіў, напэўна, і не адно, дрэва. І ўсё ж пасаджаныя дрэвы ніяк не ўзнавяць тых, што былі знішчаны за час прымусовай працы на лесараспрацоўках. На што пайшлі яны? Зусім верагодна, тыя дрэвы пайшлі на вытворчасць паперы. Што пісалася і друкавалася на ёй? Рознае. Толькі не творы Сяргея Грахоўскага. Першы зборнік яго паэзіі з'явіўся толькі ў 1958 г. Затым выйшлі ў свет ужо не адзін дзесятак – больш, чым страчаных гадоў! – зборнікаў паэзіі, апавяданняў, успамінаў. Яго творчасць адзначана літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова (1983, за зборнік "Асеннія гнёзды") і Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя Я.Коласа (1992, за кнігу аповесцяў і вершаў "Споведзь").

Людзі вырвалі з жыцця чалавека лепшыя гады. У кампенсацыю за гэта Бог дае яму доўгае жыццё і светлы розум. А, магчыма, і тыя гады былі дадзены яму, каб праз іх прызму спасцігнуць сапраўдныя каштоўнасці жыцця, каб не баяцца смерці, любіць жыццё, жыць доўга і шанаваць кожны дзень, любіць людзей. У яго паважаным узросце ён захаваў прыгажосць, яго не сагнулі гады і абставіны, ён умее бачыць праўду, адрозніваe яе ад хлусні: усё гэта ў яго вершах.

Дуб – сімвал Беларусі. Сяргей Грахоўскі – таксама сімвал гэтай шматпакутнай зямлі, магутнай сваёй духоўнай сілай. Яго моц у яго каранях, яго моц узнаўляе родная зямля. Калі ён губляе сілы, нябесныя ахоўнікі Беларусі і беларусаў даюць яму новыя, яшчэ больш трывалыя. У 85 гадоў Сяргей Грахоўскі піша вершы. Піша аб перажытым, аб любові да сваёй зямлі, аб каханні. Але найбольш яго хвалюе будучыня Беларусі. За яе ён моліцца. Мы прапаноўваем Вам, паважаныя чытачы "Байрама", далучыцца да гэтай малітвы.

## МАЛІТВА

Як некалі маліўся ў Глуску
На скрыжаванні трох дарог,
Малюся зноў па-беларуску
І веру – зразумее Бог.

Маё апошняе маленне
За ўсе малітвы карацей.
Малю не ставіць на калені



Маіх унукаў і дзяцей,
Бо настаяўся я ў няволі
За грэшнікаў і за святых,
Таму малю, Айцец, даволі
Караць маіх і не маіх
Нашчадкаў на зямлі пакутаў...

***

## Выступление Я.Соболевского на II Еўраазіяцкай канферэнцыі ў Анкары (май 1998 г.)

**Мир Вам и милость Аллаха Всевышнего!**
**Во имя Аллаха Милостивого, Милосердного!**

Высокочтимый Уважаемый Господин Председатель!
Уважаемые Собравшиеся!

Прежде всего, желаю передать от наших мусульман сердечные поздравления и пожелания нашей встрече плодотворных обсуждений. Лично я очень доволен, что могу участвовать в этой встрече, выслушать много славных выступлений и сам взять слово, представляя дела польских мусульман. Действительно, испытываю удовлетворение и безмерное чувство радости от факта, что, наконец, возникает надгосударственная исламская организация. Еще не связанная, довольно рыхлая организация, но уже в своих основах ставящая цель защиты Ислама и его прав, как религии многих народов. Религии, претендующей на первенство с точки зрения количества населения, исповедующей ее.

Такая организация, ее создание есть требование времени, так как происходящие события, современная ситуация очень трудные, требующие от нас, мусульман, сплочения рядов в сохранении нашей религии. Мы должны стать монолитом, о который будут разбиваться всякие враждебные начинания.

Вначале создадим такую организацию из народов турецкого происхождения, где будет обязательным принцип один за всех, все за одного.

Всевышний Аллаг оставил мусульманам Кур'ан, в котором содержится мудрость. Кур'ан и хадисы указывают нам простую дорогу, по которой нужно идти.

Однако каждый народ имеет особые условия движения по этой дороге. Для одних она выстлана асфальтом, а для других чрезвычайно ухабистая, непроходимая. Для польских мусульман дорога эта была чрезвычайно трудной, со многими преградами, которые должны были мы преодолевать. Польские мусульмане, как малая капля крови оказались в море христианства. Даже многовековое обособление не стало причиной растворения этой капли крови в море христианства. Это свидетельствует о глубокой вере наших предков в религию Ислама. Именно это наше обособление научило нас, как устоять в Исламе, и в этом направлении мы имеем большой опыт.

Этот жизненный опыт подсказывает нам, что нужно опираться прежде всего на правильное образование нашей молодежи, с особым вниманием к религиозному обучению в Исламе.

В этом деле обращаем особое внимание на подбор учителей религии Ислама. Ребенка можно заставить учить религию, но чтоб его ум был сосредоточен на сути обучения, зависит от учителя, его профессионализма, его умения заинтересовать ребенка преподаванием. Немало значит язык, которым пользуется учитель. Речь идет о простом языке, легко понимаемом ребенком. Простым языком можно объяснить многое, даже очень запутанные проблемы.

Вера Ислама должна создаваться на хорошо обоснованных убеждениях. Только глубокая вера может уберечь нашу молодежь от деградации. Ислам есть способ уберечь нашу молодежь от чуждых влияний. Если молодой человек решительно примет своим разумом истины, то они там останутся навсегда.

На протяжении веков мы имели своих учителей: старшее поколение воспитывало, обучало младшее, была как бы эстафета поколений. Коммунизм эту эстафету прервал, остались мы без учителей религии.

Чтобы упростить тяжелую для нас задачу в сфере обучения религии Ислама наших детей, нашей молодежи, мы обратились к учителям из-за границы. Между прочим, на наши настойчивые просьбы Турция делегировала в наше распоряжение имама-учителя. За эту братскую помощь выражаю, с этой трибуны, от имени польских мусульман благодарность. Этот факт свидетельствует о видении Ислама Турцией в более широкой сфере.

Мы создаем несколько центров обучения религии Ислама в сфере главных основ. Однако требования дня сегодняшнего иные и нынешнее образование молодежи оказывается недостаточным. Возникла насущная проблема создания собственных кадров преподавателей, которые занимались бы надлежащим образом образованием молодежи. С целью удовлетворения этого желания мы теперь строим школу Кур'ана, где будет обучаться молодежь. И тем самым пришли бы учителя религии Ислама. Окончание строительства школы затянулось во времени, создалась тем временем невыгодная для нас ситуация. Для окончания строительства нет финансовых средств. В связи с этим какая-нибудь помощь нами будет очень любезно принята.



На молодого мусульманина, проживающего в Польше, влияют многие неблагоприятные обстоятельства в сфере сохранения религии Ислама, а именно:

— школа,
— средства массовой информации,
— окружение,
— агрессивные религиозные секты, которые теперь атакуют страны Европы,
— порнография,
— алкоголь, наркотики и др.

Поэтому мы принимаем принцип, что делу воспитания молодого мусульманина необходимо уделять много внимания. Наша работа в этом направлении должна исполняться с особой старательностью. Мы руководствуемся принципом: от образования молодежи зависит, какими будут последующие поколения.

Наша ситуация сильно отличается от проблем мусульман, живущих в плотных группах. Мы чувствуем себя так, будто постоянно находимся на линии фронта, где враг атакует первые шеренги.

Хочу затронуть еще одну проблему, а именно. В прошлом году в Польше создана Rada Wspólna Katolików i Musulman. Задачи этой Рады следующие:

— прежде всего, взаимное познание, без лишних посредников;
— решение проблем, касающихся двух религий, как: борьба с псевдорелигиозными сектами, наркоманией, алкоголизмом, порнографией, проституцией, преступностью несовершеннолетних и т.п.,
— избегать всякой конфронтации и враждебной агитации;
— а также других враждебных явлений для обоих религий.

Прекрасные цели!

Католики первые протянули нам, мусульманам, руку. Мы, мусульмане Польши, как меньшинство, не имели права оттолкнуть протянутую ладонь. Такой поступок противоречил бы этике Ислама.

Созданием Рады Общей хотели мы служить примером для других, так как эти две могучие религии могут сотрудничать в решении важных общих проблем без конфронтации.

Кроме того, к нам относится еще одна цель, очень важная цель. На нашей планете есть силы, которые толкают в объятия войны эти две великие религии. Побуждения к этим действиям разные:

— одни исходят из идеологических основ,

— другие, наоборот, из материальных.

Они опираются на положение: где двое дерутся, там третий может выгадать. Скорее всего, они рассчитывают на то, что если столкнутся эти две религии, то менее могучая получит шанс "выплыть на широкие воды".

В то же время материалисты думают, что на той войне можно хорошо заработать, так как оружие нужно будет и тем и другим.

Силы эти постоянно выискивают противников и толкают их к вооруженным конфликтам. И избраны для этого те две религии. Поэтому Рада Общая между иными целями ставит предотвращение этих враждебных начинаний и противостояние им.

Другие проблемы, волнующие наше общество, близки тем, которые затронул в своем выступлении доктор Ибрагим Канопацкий из Беларуси. С уверенностью соглашаемся с его видением этих проблем. Поэтому не будем здесь их обсуждать.

Благодарю организаторов за созыв этой конференции, так как она в нашем деле является важным творческим элементом. Именно здесь произошел обмен опытом и получены сведения о новых событиях. Благодарю за труд по руководству созданием надгосударственной исламской организации.

Выражаю благодарность руководителям турецкого народа за желание оказать помощь моим собратимам, разбросанным в странах Европы и Азии.

Благодарю за терпеливое выслушивание моего выступления.

Пусть Великий Аллах окружит Вас Своей Заботой.

***



# ТАТАРЫ-МУСУЛЬМАНЕ Ў ПАЛІТЫЧНЫХ ПАДЗЕЯХ НА БЕЛАРУСІ, У ПОЛЬШЧЫ І РАСІІ (канец XVIII – пачатак XX ст.ст.)

У XVIII ст., як і ў больш раннія перыяды гісторыі Беларусі, татарская шляхта служыла ў арміі, як у каронная, так і Вялікага Княства Літоўскага. Для мусульманіна ў той час гэта была практычна адзіная магчымасць зрабіць кар'еру. У палітычных падзеях, звязаных з падзелам Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795 гг.), у вайне 1812 г. і ў паўстанні 1830-1831 гг. сустракаецца шмат прадстаўнікоў старажытных татарскіх родаў: Азулевічы, Ахматовічы, Белякі, Туган-Барanoўскія і шмат іншых.

Адным з найбольш вядомых быў генерал-маёр, мусульманін Юзэф (Юсуф) Беляк. Ён нарадзіўся пад Наваградкам, у татарскай вёсцы Лоўчыцы. Служыў у Саксоніі, а пасля смерці караля Аўгуста III быў камандзірам палка ў кароннага гетмана К.Браніцкага. У 1769 г. Ю.Беляк далучыўся да Барскай канфедэрацыі (1768-1772 гг.) і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць расійскага войска пад Слонімам (12. VI), Якімавічамі (17. VII), Молчадзю (16. VII), а ў 1771 г. разам з гетманам літоўскім М.Агінскім пад Сталавічамі (22.X), дзе практычна толькі полк, якім камандаваў Ю.Беляк, здолеў даць бой атраду А.Суворава. Актыўна ўдзельнічаў Ю.Беляк у кампаніі 1792 г. У бітвах і сутыкненнях з расійскім войскам пад Свержанем, Мірам (11. VI), Зэльвай (4. VII) і Брэст-Літоўскам (22. VII) ён паказаў сябе адным з лепшых камандзіраў літоўскіх войск. Калі ў 1791 г. пасля другога падзела Рэчы Паспалітай успыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, Ю.Беляк абвясціў аб сваім далучэнні да паўстанцаў у канцы красавіка. Знаходзячыся ў складзе корпуса, якім камандваў князь Ф.Сапега, полк Ю.Беляка знаходзіўся каля Бельска, чакаючы падтрымкі з Варшавы. Найвышэйшая Рада ВКЛ даручыла гэтаму корпусу не пусціць прускія войскі да Нёмана і не даць ім магчымасці злучыцца з атрадам князя Цыцыянава. Аднак нявопытны малады камандзір Ф.Сапега не здолеў супрацьстаяць вопытнаму рускаму камандзіру Цыцыянаву. Недысцыплінаванасць Сапегі, калі ні ў Варшаве, ні ў Вільні не ведалі, дзе знаходзіцца яго корпус, выклікала рэзкія сутычкі паміж Сапегай і генералам Ю.Беляком. Корпус Ф.Сапегі ад Гродна прыбыў у Сталавічы, туды ж накіраваўся і атрад князя Цыцыянава, у якога пад Новай Мышшу адбылася сутычка з конніцай палкоўніка Ахматовіча. Паўстанцы адышлі да Дзярэчына, потым праз Зэльву да Слоніма. Ф.Сапега, пасварыўшыся, у чарговы раз паехаў у Ружаны. Беляк стаў камандзірам корпуса, але нечакана ў канцы чэрвеня 1794 г. памёр.[1]

Аднапалчанамі Ю.Беляка былі Якуб Азулевіч (загінуў у 1794 г.) і Мустафа Ахматовіч (памёр у 1794 г.). Якуб Азулевіч таксама ўдзельнічаў у кампаніі 1792 г., адным з першых далучыўся да паўстанцаў у 1794 г. і загінуў пры абароне Вільні ў канцы чэрвеня 1794 г. Мустафа Ахматовіч, удзельнік яшчэ Сямігадовай вайны, ваяваў супраць расійскіх войск яшчэ ў часы Барскай канфедэрацыі, быў пад Міром, Зэльвай, Ізабеліным, Мецібовам і Брэст-Літоўскам у 1792 г., разам з Ю.Беляком ваявалі ў 1794 г. на тэрыторыі ВКЛ, а затым Польшчы, быў цяжка паранены ў бітве пад Мацаёвіцамі і неўзабаве памёр. Яго аднафамілец Мустафа Мурза Ахматовіч таксама быў у палку Ю.Беляка. Ваяваў з расійскім атрадам Цыцыянава пад Новай Мышшу і Слонімам. Разам з палкоўнікам Стэфанам Грабоўскім, ужо пасля таго, як расійскія войскі захапілі Вільню, атрад М.Ахматовіча перайшоў мяжу Мінскай губерні, але былі разбітыя і паланёныя Цыцыянавым пад Любанню (2.IX. 1794 г.). У вайну 1812 г. М.Ахматовіч разам з Ібрагімам Мурзой Карыцкім і Самуэлем Уланам аб'явілі ў Вільні аб стварэнні татарскага палка. М.Ахматовіч звярнуўся з адозвай да татараў, у якой гаварылася: "Татары! На працягу некалькіх стагоддзяў ваш храбры народ заўсёды вызначаўся любоўю да Радзімы, што прыняла вас як сыноў сваіх, і ў той час, калі яна хілілася да заняпаду пад націскам дзяржаў, якія пакляліся знішчыць Польшчу, вы шляхетна не шкадавалі ў яе абарону вашай крыві. Цяпер, калі з'явіўся шанс адраджэння Радзімы, няўжо вы не акажацеся такімі, як вашы продкі. Ахвяраваць усім для шчасця Радзімы было заўсёды адметнай рысай татарскага народа, і Радзіма не сумняваецца, што і вы пойдзеце шляхам вашых продкаў. Ужо многія з вас выказалі гатоўнасць уступіць у полк. Спяшайцеся ж, дастойныя мужы, пад польскія знамёны! Няхай татарскія атрады дакажуць, што вы прыродныя патомкі Карыцкіх эпохі Яна Сабескага, Азюлевічаў і многіх іншых вядомых у гісторыі мужоў, чыя храбрасць не раз наводзіла жах на ворагаў Польшчы. Радзіма заклікае вас да таго і спадзяецца, што вы выканаеце свой святы абавязак".

М.Ахматовіч, І.Карыцкі і С.Улан прапаноўвалі сваім суплямённікам уступіць у полк і служыць на баку Напалеона. Аднак удалося сфарміраваць з татар толькі адзін эскадрон літоўскага войска, асобнае даволі элітарнае фарміраванне. У складзе палка шваляжэраў (лёгкаконных) ён увайшоў у маладую гвардыю Напалеона. Пра баявы шлях эскадрона можна меркаваць па некаторых дакументах аб службе, уцалелых у справах аб дваранстве татар. Так, ураджэнец Менска Сулейман Сафаравіч Біцютка ўступіў у эскадрон радавым у 1812 г. (ва ўзросце 19 гадоў), прайшоў кампанію ў Саксоніі, змагаўся ў бітвах пад Лютцэнам, Баўтцэнам, Дрэздэнам, Альтэнбургам, Веймарам, Ханнау. Затым у яго паслужным спісе адзначаны шматлікія баі на тэрыторыі Францыі. Пад Фантэнбло Біцютку далі чын брыгадзіра – сяржанта гвардыі. Як і астатнія польскія злучэнні, татарскі эскадрон паступіў у распараджэнне створанага пад скіпетрам Аляксандра І Царства (Каралеўства) Польскага, быў адведзены ў Варшаву і там распушчаны. Адпускны білет (пашпарт) для вяртання на радзіму Сулейман Біцютка атрымаў 2 сакавіка 1815 г.[2] Самуэль Улан, які разам з рэштамі татарскага палка знаходзіўся ў Францыі, застаючыся афіцэрам, выконваў у палку абавязкі мулы. Вярнуўшыся на Радзіму, С.Улан удзельнічаў разам з Мустафой Мурза Ахматовічам і Багданам Беляком у паўстанні 1830-1831 гг.[3]



Такім чынам, татары-мусульмане, як прафесійныя ваенныя, удзельнічалі ва ўсіх бітвах другой паловы XVIII – пачатку XIX ст.ст. Татары выступілі супраць акупацыі Рэчы Паспалітай, якой яны прысягалі. Але ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, дзяржава, якой верай і праўдай чатырыста гадоў служылі татары, перастала існаваць. Царскія ўлады, жадаючы зрабіць з татар-мусульман маўклівых выканаўцаў манаршай волі, не рабілі ім перашкод, больш таго, стваралі спрыяльныя ўмовы для кар'еры, у першую чаргу ў арміі і розных упраўленнях. Яшчэ 30 кастрычніка 1794 г. у імянным указе Ліфляндскаму, Эстляндскаму губернатару князю Рапніну Кацярына II пісала: "...не оставьте вы без замечания поселенных в литовских областях татарского племени войск, яко происходящих от народа храброго и прямодушного".[4]

Кацярына II у гэтым жа дакуменце паабяцала татарам, "что не только оставляет их в свободе отправлять своё богослужение и при всём том, что они в Литве имеют, но желаем обеспечить их состояние".[5]

Літоўскіх (беларускіх) татар ахвотна прымалі на дзяржаўную службу, таленавітай моладзі давалі магчымасць вучыцца бясплатна. З гэтай нагоды польскі даследчык Юліан Талка-Грынцэвіч пісаў: "Мусульмане, карыстаючыся прывеліяваным становішчам, не маючы нават адпаведнай кваліфікацыі, займалі пасады ў судовых і паліцэйскіх управах. Расійскія ўлады не раз аддавалі ім перавагу перад праваслаўнымі, таму што лічылі іх больш добрасумленнымі і цвярозымі. У пэўныя гады паліцыя рэкрутавалася пераважна з мусульман".[6]

Крымска-татарскі асветнік Ісмаіл Гаспрынскі, які ў 1880 г. наведаў губерні Літвы і Беларусі з мэтай больш блізкага вывучэння ўплыву еўрапейскай культуры на "азіятцаў", у сваёй брашуры "Русское мусульманство" (1881 г.) адзначаў: "... на першы погляд, літоўскія мусульмане зусім не падобныя на такіх у іншых краінах. Абсалютная большасць з іх больш ці менш адукаваныя, і вельмі многія служаць на ваеннай і цывільнай службе... Мне давялося наведаць адну татарскую вёску паблізу Вільні, дзе ўсе жыхары маюць той ці іншы ордэн, і ўсе – маёры або паручнікі і губернскія сакратары ў адстаўцы. Увогуле – літоўскія татары – найлепшыя татары Расіі і стаяць на чале мусульманства па культуры і адукаванасці".[7]



Генерал Мацей (Муса) Сулькевіч – першы прем'ер-міністр Крыма

Але найбольш значную кар'еру татары-мусульмане зрабілі ў расійскай арміі. Ужо на пачатку XIX ст. паяўляецца першы генерал-татарын Юзэф Улан (памёр у 1804 г.). На працягу XIX ст. ў расійскай арміі служылі некалькі дзесяткаў генералаў і палкоўнікаў, а ніжэйшых афіцэраў – некалькі сот. Перад Першай сусветнай вайной на расійскай службе знаходзілася 18 генералаў-татар: Халіль Базарэўскі, Канстанцін Біцютка, Тамерлан Беляк, Юзэф Якубоўскі, Гіпаліт Янушэўскі, Якуб Юзэфовіч, Канстанцін Крычынскі, Леон Крычынскі, Аляксандр Мількоўскі, Абу-Талеб Мухля, Юзэф Палтаржыцкі, Аляксандр Рамановіч, Стэфан Сабалеўскі, Муса Сулькевіч, Аляксандр Талькоўскі, Аляксандр Туган-Бараноўскі, Ян Туган-Бараноўскі, Стэфан Вільчынскі. Усе яны выхаванцы расійскіх ваенных навучальных устаноў, лічыліся найбольш лаяльнымі падданымі імперыі. Ім давяралі камандаваць не толькі палкамі, дывізіямі, карпусамі і арміямі, але таксама прымалі ў рады царскай гвардыі. Да найбольш здольных татарскіх афіцэраў можна аднесці Аляксандра Рамановіча. "Верны традыцыям сваіх бацькоў, – чытаем у яго біяграфіі, – прысвяціў сваё жыццё ваеннай службе, скончыў у 1890 г. Полацкі кадэтскі корпус". Праз два гады пасля атрыман-



ня дыплома Мікалаеўскай кавалерыйскай школы – ён карнет палка драгунаў гвардыі. З 1913 г. – палкоўнік, са сваім палком удзельнічае ў баях ва Усходняй Прусіі ў Першую сусветную вайну. У 1915 г. – камандзір Каліжскага пагранічнага палка, у 1916 г. А.Рамановіч атрымаў чын генерала. У 1917 г. ён камандзір Фінляндскай пагранічнай дывізіі.

Зямляк А.Рамановіча генерал-лейтэнант Якуб Юзэфовіч у 1914-1916 гг. камандаваў 12-й арміяй. За мужнасць на фронце быў узнагароджаны не толькі вышэйшымі ўзнагародамі Расіі, але і французскімі, англійскімі і іспанскімі. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён займае пасаду начальніка штаба вядомай Дзікай дывізіі, якая складалася з некалькіх каўказскіх конных палкоў. Вядомай фігурай быў (памёр у 1936 г.) палкоўнік Стэфан Мішамуха, які служыў у 23-м Нізаўскім палку. Вызначыўся мужнасцю пад час руска-японскай вайны. Даволі вядомы быў сярод беларускіх татар таксама палкоўнік Якуб Багдановіч. Як і А.Рамановіч, ён скончыў згаданыя навучальныя ўстановы. Пад час Першай сусветнай вайны ён займае пасаду намесніка камандзіра 4-га Харкаўскага уланскага палка, пра які напісаў манаграфію.[8]

Служба ў арміі і царскай адміністрацыі закідвала беларускіх татар у месцы пражывання мусульманскага насельніцтва. Зносіны з імі садзейнічалі ўмацаванню сувязяў (рэлігійных і этнічных) з цюркамоўнымі народамі Расійскай імперыі. Яны ўсведамлялі ўласнае становішча, якое адрознівалася ад становішча крымскіх, казанскіх альбо астраханскіх татар. Сустрэчы з крымскімі ці казанскімі татарамі выклікалі ў іх не толькі моцныя перажыванні і давалі магчымасць выказаць рэлігійную і этнічную салідарнасць, але і прадстаўлялі выпадак параўнаць уласныя звычаі з культурай іншых татар. Дзякуючы такім кантактам у польскай літаратуры ў міжваенны час (1918-1939 гг.) з'явілася шэраг цікавых успамінаў. Як, напрыклад, успаміны М.Сушчэвіча.

На пачатку XX ст. лёс закінуў беларускага татарына Мацея Сушчэвіча ў Паволжа. Выконваючы абавязкі судовага следчага, ён меў магчымасць наведаць многія татарскія вёскі і пазнаёміцца з жыццём іх жыхароў. Яго ўспаміны каштоўныя не столькі тым, што даюць нам малюнкі жыцця татарскай вёскі, колькі тым, што гэтыя назіранні зрабіў чалавек, выхаваны на традыцыях еўрапейскай культуры. Праз шмат гадоў ён так успамінаў пра сваё наведванне аднаго з паволжскіх татарскіх вёсак: "Уязджаем у вёску і спыняемся перад чыстым домам судовага следчага і ўезднага ўрача, нас адразу акружае натоўп цікаўных. Мужчыны з брытымі галовамі ў цюбецейках і круглых шапках, падшытых мехам. Жанчыны амаль усе нафарбаваныя, закрываюць твар накінутай на галаву стракатай хусткай, на грудзях у іх бачыш маністы з назалочаных манет і шэраг іншых бразготак, на жаль, здзіўляе звычай чарнення зубоў. Ува-

ходзім у дом. Вакол бачым чысціню і парадак. Дом дзеліцца парцьерай на дзве часткі: мужчынскую і жаночую. Тут няма ні крэслаў, ні стала, замяняе іх подыум, засланы мяккім лямцам, за які садзімся па-турэцкі". Далей чытаем: "Спачатку нас павялі ў лазню, дзе гаспадар асабіста выконваў цырымонію мыцця. Пасля выкупаных і свежых гасцей ён павёў у свой дом, які нічым не адрозніваўся ад іншых, хаця, як быццам толькі тым, што больш пах стаяў мыла, а па сценах было больш рамак, у якіх былі змешчаны выслоўі з Кур'ана, а таксама іншыя ўсходнія рэліквіі. Пачастунак пачаўся з чаю, які падаваўся ў маленькіх, блакітнага колеру кубачках самім мулой. Жанчыны не паказваліся, бачылі іх толькі рукі, упрыгожаныя срэбранымі бранзалеткамі, якія з'яўляліся ў момант падачы гаспадару ежы. На падносе знаходзіліся розныя прысмакі. Пасля чаю прынеслі абед, які складаўся з тушанага мяса, салмы і каніны. Напрыканцы бяседы гаспадар, жадаючы ўсходнім звычаем асабліва падкрэсліць сваю павагу, спрабаваў укласці мне ў рот кавалак бараніны і быў вельмі здзіўлены, што гэты пачастунак мне не спадабаўся".[9]

Выдатным дзеячом за незалежнасць Польшчы ў канцы XIX – пачатку XX ст.ст. быў Аляксандр Сулькевіч. Ён нарадзіўся ў 1867 г. на Сувалшчыне ў сям'і з даўнімі ваеннымі традыцыямі. Яго бацька, хаця і быў афіцэрам расійскай арміі, але дазволіў жонцы выхоўваць сына ў духу польскага патрыятызму і культа паўстанняў XIX ст. Бацька Аляксандра Сулькевіча, кінуўшы службу, у канцы 70-х гадоў эмігрыраваў з жонкай і сынам у Турцыю. Тут ён і памёр. Праз паўгода сын разам з маці ізноў вяртаюцца на радзіму. Аляксандр марыў аб афіцэрскай кар'еры, а стаў барацьбітом за незалежнасць Польшчы, уступіўшы ў партыю "Пралетарыят" А.Варыньскага. З дапамогай свайго родзіча, начальніка расійскай памежнай аховы, ён уладкаваўся супрацоўнікам таможні ва Уладзіслававе, а пазней у Вежбахове. Гэта дазваляла яму займацца перапраўкай і перавозкай нелегальнай літаратуры, якая дасылалася з Лондана на працягу амаль 15 гадоў. У 1892 г. ён удзельнічае ў парыжскім з'ездзе дэлегатаў польскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый, на якім была абвешчана Польская сацыялістычная партыя. На наступны год, калі з сібірскай ссылкі вяртаецца Ю.Пілсудскі, дзейнасць партыі ажыўляецца і набывае шырокі размах. Паміж двума рэвалюцыянерамі ўстанаўліваецца вялікая дружба. У 1900 г. А.Сулькевіч удзельнічае ў арганізацыі пабега Пілсудскага. Затым ён працуе ў Кіеве, дзе некалькі гадоў кіруе тайнай друкарняй, прымае актыўны ўдзел у падзеях першай рускай рэвалюцыі. На пачатку Першай сусветнай вайны А.Сулькевіч знаходзіцца ў Кракаве, дзе рыхтуе дружыны стральцоў для барацьбы за незалежную Польшчу. Нягледзячы на дрэнны стан здароўя і кепскі зрок, ён ірвецца на фронт, дзе і гіне ў 1916 г.



Напрыканцы XIX – пачатку XX ст.ст. у пэўнай часткі беларускіх татар назіраецца рост актыўнасці. Ён праяўляўся ў сяброўскіх сустрэчах сямей татарскай інтэлігенцыі, якія пачалі ладзіцца ў Вільні з канца 90-х гадоў. У далейшым гэтыя сустрэчы сталі штогадовымі, праводзіліся прыёмы і балі, на якія з'язджаліся татары з розных гарадоў і мястэчак. У той жа час заможныя татары пачынаюць выкупліваць у палякаў сваю былую маёмасць, якая перайшла ў іх рукі ў выніку нявыплаты запазычанасці іх былымі ўладальнікамі. Выкуплівалі яе часта па завышанай цане і без уліку якасці зямлі. Такім вялікім было жаданне адраджэння прыйшоўшых некалі ў заняпад татарскіх маёнткаў. Найбольшую ініцыятыву ў гэтым праяўлялі татарскія роды Ахматовічаў і Крычынскіх. У той жа час на Сувалшчыне назіраецца адваротная сітуацыя: пасля зямельнай рэформы 1861 г. татарская шляхта не здолела тут перайсці на новыя спосабы гаспадарання і рабіла даўгі, паступова страчваючы сваю маёмасць.

Аб выратаванні свайго становішча думалі таксама і ў бяднейшых татарскіх сем'ях. Для многіх з іх адзіным выйсцем была эміграцыя ў Турцыю. Туды татары выязджалі ўсё мінулае стагоддзе, хаця пасля 1864 г. сустракалі шмат перашкод з боку царскіх улад. Нягледзячы на гэта, аж да 1914 г. татары рознымі шляхамі стараліся стаць падданымі султана. Верагодна, яны следавалі прыкладу беларускіх сялян, якія ў першыя гады XX ст. пачалі ў масавым парадку выязджаць у заходнееўрапейскія краіны і ЗША. На амерыканскі кантынент татары эмігрыравалі цэлымі сем'ямі і паасобку – пераважна рамеснікі-гарбары. Некаторыя з іх перад вайной здолелі ўжо вярнуцца на радзіму. На пастаяннае жыхарства ў ЗША засталіся каля 150 сямей.[10] Татары, якія эмігрыравалі ў ЗША, былі ў асноўным родам з Беларусі і Літвы. Некаторыя з бяднейшых сямей выязджалі таксама ў заходнееўрапейскія краіны. У гербоўніку С.Дзядулевіча знаходзілі звесткі аб знаходжанні беларускіх татараў у Сербіі, Італіі і Францыі.[11]

У першыя гады XX ст. на ўсёй тэрыторыі Расіі актывізуецца рух мусульманскіх народаў. У большасці рэлігійных цэнтраў ствараюцца палітычныя, культурныя і дабрачынныя таварыствы. Склікаюцца агульнамусульманскія з'езды. Ствараюцца навуковыя таварыствы. Асноўнай задачай гэтага руху была заваёва палітычных і культурных свабод для ўсіх прыхільнікаў Іслама ў Расіі. Імпульсам да гэтага былі рэвалюцыйныя падзеі 1905-1907 гг., вынікам якіх стала рашэнне аб стварэнні парламента, а таксама прызнанне нацыянальных і рэлігійных свабод. Беларускія татары не засталіся абыякавымі да гэтых падзей, а некаторыя іх прадстаўнікі ўдзельнічалі ў гэтым агульнарасійскім руху. Асабліва актыўная іх дзейнасць разгортваецца ў 1907-1910 гг., калі ў Пецярбургу тайна ствараецца акадэмічны "Гурток польскіх студэнтаў-мусульман", члены якога з асаблівым захапленнем узяліся за даследаванне татарскіх паселішчаў у Літве і

Польшчы. З іх асяроддзя выйшла потым шмат вучоных па гісторыі літоўскіх татар, у тым ліку браты Леон і Альгерд Найман-Мірза-Крычынскія. У склад гуртка ўваходзілі студэнты і студэнткі ВНУ сталіцы Расіі – выхадцы з Віленскай і Мінскай губерняў, а таксама з Падляшша. Яны марылі аб вялікай калектыўнай працы, але свой намер рэалізаваць не здолелі. У 1909 г. па ініцыятыве Альгерда Крычынскага ў Вільні ствараецца "Літоўска-мусульманскае таварыства дапамогі бедным мусульманам". Акрамя дабрачыннай дзейнасці гэтая арганізацыя праводзіла і шырокую асветніцкую работу. Падобная арганізацыя ўзнікае вясной 1913 г. ў Варшаве. Ініцыятарамі яе стварэння былі татары з Волгі. Але сярод іх быў і польскі татарын Канстанцін Халецкі. 31 кастрычніка 1913 г. яна рэгіструецца Варшаўскім губернскім упраўленнем па пытаннях аб'яднанняў пад назвай "Варшаўскае мусульманскае таварыства дапамогі бедным мусульманам". Гэтае таварыства налічвала 118 членаў, з іх 55 было з Волгі, Крыма і Каўказа. Астатнія – польскія татары. Менавіта яны абралі старшынёй генерала К.Крычынскага, а яго сына Леона прызначылі сакратаром. Акрамя таго ў праўленне ўвайшлі мясцовыя татары-мусульмане: падпалкоўнік М.Байрашэўскі, інжынеры Б.Міскевіч і Б.Палтаржыцкі. Абодва таварыствы – варшаўскае і віленскае – устанавілі паміж сабою сувязі, але не здолелі сумесна разгарнуць вялікую дзейнасць. Нягледзячы на гэта, іх работа стала пачаткам таго грамадска-культурнага руху, які разгарнуўся ў незалежнай Польшчы. На пачатку жніўня 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна. Літоўскія татары ваявалі ў складзе расійскай арміі. У першую чаргу гэта былі прафесійныя ваенныя і мабілізаваныя на вайну татары. Раскіданыя ў розных фарміраваннях, яны не стваралі асобных вайсковых адзінак, ваявалі на ўсіх участках фронту, як расійска-германскага, так і расійска-аўстра-венгерскага. У ходзе ваеннай кампаніі на пачатку вайны фронт абыйшоў бокам тыя губерні, дзе жылі татары, але ўжо са жніўня 1915 г. на тэрыторыі гэтых губерняў разгараецца барацьба паміж адыходзячай расійскай арміяй і наступаючымі з захаду нямецкімі войскамі. Яна працягвалася да канца кастрычніка 1915 г. і ўцягнула ў сваю сферу большасць населеных пунктаў, дзе жылі літоўскія татары. Асабліва моцныя баі разгарнуліся ў Гродзенскай губерні ў Ваўкавыскім і Слонімскім паветах, а таксама ў суседніх Баранавіцкім, Кобрынскім, Пружанскім, Слуцкім і Пінскім паветах. Насельніцтва гэтых паветаў панесла вялікія страты як у выніку баявых дзеянняў, так і ў час знішчальнага адступлення рускіх войск, якія пасля сябе пакідалі спаленыя населеныя пункты, вёскі, маёнткі. Мэта адступаючых расійскіх войск была адна – пакінуць непрыяцелю руіны ды галавешкі. Па падліках польскіх гісторыкаў каля 1,5 тысячы літоўскіх татараў эвакуіраваліся ў глыб Расіі (пераважна ў Казанскую, Уфімскую і Таўрычаскую губерні). Тыя ж татары, што заставаліся на акупаванай немцамі тэрыторыі, у поўнай меры зведалі ўсе цяжкасці, якія прынёс акупацыйны рэжым. Яны прымалі ўдзел ва ўсіх работах на карысць акупантаў. Іх высялялі з уласных дамоў, якія займала армія. Рэквізаваліся татарскія палі і лугі, на якіх размяшчаліся палявыя аэрадромы. Татарская моладзь мабілізоўвалася ў грамадзянскія падраздзяленні, якія выкарыстоўваліся для рыцця акопаў і іншых патрэб фронта. Многіх маладых татар пасылалі на работы ўглыб германскай імперыі.



У гэты час літоўскімі татарамі цікавіліся нямецкія вучоныя, якія прыязджалі ў Вільню. Яны агледзелі мясцовую мячэць, пазнаёміліся з іх рэлігійнымі абрадамі. Пра гэта сведчаць нататкі ў дзвюх нямецкіх работах, прысвечаных віленскім татарам, выдадзеных у 1917-1918 гг. Тутэйшымі татарамі-мусульманамі цікавіліся і вышэйшыя турэцкія ваенныя чыны. У суправаджэнні нямецкіх афіцэраў яны наведалі г.Слонім, каб устанавіць кантакты з татарскімі жыхарамі горада, прапаноўвалі ім эмігрыраваць у Турцыю. Акрамя таго, да слонімскіх татар дабіраліся салдаты аўстра-венгерскай арміі – мусульмане з Босніі. Аднак гэтыя візіты былі выпадковымі і насілі кароткачасовы характар. І безразумела, такі выпадковы характар зацікаўленасці татарамі-мусульманамі Беларусі не паўплываў на змену іх становішча. За ўвесь перыяд нямецкай акупацыі татары ў поўнай меры пазналі ўсе тыя няшчасці і панеслі страты, як і іх суседзі-беларусы, палякі, літоўцы і яўрэі.

Бязладдзе і хаос, якія ахапілі Расію пасля 1917 г., дазволілі легалізаваць дзейнасць розным мусульманскім арганізацыям і таварыствам. Татары-мусульмане Беларусі, Літвы і Польшчы актыўна ўключаліся ў палітычнае жыццё Крыма, Паволжа, Каўказа і нават Туркестана. Як прафесійныя афіцэры яны аказвалі вялікія паслугі ў стварэнні мясцовых узброеных сіл.

Пасля падзення царызму ў Петраградзе ўзнікае "Камітэт татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны". У склад яго праўлення ўвайшлі Аляксандр Ахматовіч (старшыня), Ібрагім Міскевіч (намеснік старшыні), Алескер Мухарскі (намеснік старшыні), Леон Крычынскі (сакратар). Уноў створаны камітэт актыўна ўключыўся ў палітычнае жыццё 30 мільёнаў мусульман Расіі. Татар Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны прадстаўляў у Выканкаме Усерасійскага мусульманскага Савета Аляксандр Ахматовіч. З цягам часу ён становіцца адным з найбольш вядомых змагароў за палітычныя і культурныя правы мусульман. Яго імя звязана таксама з вядомай справай вяртання Кур'ана халіфа Усмана. Гэты Кур'ан, які з'яўляўся найкаштоўнейшай рэліквіяй мусульманскага Усходу, меў незвычайны лёс. Паводле падання, гэтую кнігу ўласнаручна перапісаў сам трэці праведны халіф Усман, які загінуў 17 чэрвеня 656 г. Як сведчаць сучаснікі, кроў забітага халіфа арасіла ляжаўшы побач

з ім Кур'ан. Усё гэта прывяло да таго, што Кур'ан стаў аб'ектам пакланення ўсяго мусульманскага свету. Пад час пахавання Цімура кнігу прывезлі ў Самарканд і палажылі ў яго грабніцы. Першым еўрапейцам, які даследаваў Кур'ан халіфа Усмана, быў венгерскі ўсходазнаўца Армін Вамберы. Гэты падарожнік, апрануты ў адзенне турэцкага дэрвіша, дайшоў у 1863 г. да Самарканда. Пры наведванні маўзалея Цімура ўбачыў святую кнігу, якая стаяла на каменным пастаменце. У 1904 г. па загаду Мікалая II Кур'ан халіфа Усмана быў перавезены ў Пецярбург і да 1917 г. захоўваўся ў царскай бібліятэцы. Усерасійскі мусульманскі Савет неаднаразова звяртаўся з просьбай аб вяртанні гэтай рэлscore. Пасля некалькіх адмоў А.Ахматовіч загадаў падраздзяленням мусульманскага палка гвардыі заняць будынак бібліятэкі. Гэтай акцыяй кіраваў літоўскі татарын капітан А.Талькоўскі. Толькі пасля гэтай акцыі расійскія ўлады пагадзіліся вярнуць святую кнігу. У жніўні 1918 г. мусульманская дэлегацыя, у склад якой уваходзілі адмірал Ісламаў, князь Максутаў, а таксама Аляксандр і Канстанцін Ахматовічы, суправаджаемая палком гвардыі, адвезла Кур'ан ва Уфу. Падарожжа ў гэты горад стала повадам для выказвання ўсеагульнай падтрымкі татарскім, башкірскім, чувашскім насельніцтвам дзеянняў мусульманскага Савета. Ва ўсіх гарадах і населеных пунктах па шляху следавання дэлегацыя з Пецярбурга сустракала шырокую падтрымку. Пасля шматлікіх прыёмаў і банкетаў, пад час якіх выказваліся падзякі мусульман, дэлегацыя вярнулася ў Петраград. Але сталіца Башкартастана радавалася Кур'ану халіфа Усмана толькі некалькі гадоў. Ужо ў 1923 г. мусульмане Сярэдняй Азіі звярнуліся да Савецкага ўрада з просьбай вярнуць рэліквію на сваё месца ў Самарканд. У тым жа годзе яе перавезлі цягніком з Уфы да Ташкента, а пазней у Самарканд. У 1941 г. па ўказанню Сталіна Кур'ан пераносіцца з Самаркандскай мячэці ў гістарычны музей Узбекскай ССР.

## Спасылкі

[1] А.Энгель. Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства. Т. 1, ч. 1, Вильна, 1868, сс. 927-929 ; Т. 2, ч. 1, сс. 53, 54, 103; H.Moscicki. Dzije porozbirowe Litwy i Rusi. Wilno, 1911, s. 193-194; Polski Slownik Biograficzny. Kraków, 1936, t. 2, ss. 32, 33.

[2] Polski Slownik Biograficzny. T. 1, Kraków, 1935, ss. 18, 191; S. Kryczynski. Tatarzy litewscy. Proba monografii historyczno-etnograficznej. Rocznik Tatarski, Warszawa, 1938; J.Tyszkiewicz. Tatarzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989, s. 299.

[3] S.Kryczynski. Tatarzy litewscy, ss. 46, 47.



[4] Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии... Сост. С.Ф.Рубинштейн. Вильна, 1884, с. 165.

[5] Там сама, с. 165.

[6] J.Talko-Hryncewicz. Muslimowie czyli tak zwani Tatarzy litewscy. Kraków, 1924, s. 11-12.

[7] Исмаил бей Гаспралы (Гаспринский). Русское мусульманство. Мысли, заметки и наблюдения. В кн.: И.Гаспринский. Из наследия. Симферополь, Таврия, 1991, сс. 39-40.

[8] Я.Гришин. Польско-литовские татары (наследники Золотой Орды). Казань, Татарское книжное издательство, 1995, сс. 80-81.

[9] Там сама, с. 82.

[10] "Байрам", 1991, № 4.

[11] S.Dziadulewicz. Herbarz rodzin tatatrskich w Polsce. Wilno, 1929.

(Працяг у наступным нумары)

**І.Канапацкі.**

***

## ПЕРЕВОД КАК СРЕДСТВО СОХРАНЕНИЯ ЭТНОСА?

***Перевод имеет значение не только в собственном виде, но и в виде этно-бытового выражения. Более того, некоторые этнические группы народов, подверженные языковой ассимиляции, оставили после себя переводческие, но на своём алфавите, написанные тексты.***

***Предлагаем читателям отрывок из статьи белорусского исследования "Тюркские и арабские языки в языковой ситуации Великого Княжества Литовского". Перевод с белорусского и подготовка к печати Фаяза Фаизова.***

... Как свидетельствуют источники, первые татарские колонисты происходили из разных племён и рас, которые временами весьма отличались друг от друга: были собственно татары, которые принадлежали к тюрко-татар-

ской расе, угорской, частично монгольской. Однако, надо думать, что татары или тюрко-татарский элемент преобладал, поскольку общей и единственной для переселенцев была мусульманская вера и арабская письменность.

Постепенно татарские поселенцы утрачивают свой язык. По мысли исследователя татар-мусульман Великого Княжества Литовского Я.Станкевича, этому обстоятельству способствовали, кроме выше указанного расового и племенного отличия, их рассеяность на больших территориях, населённых иноязычными народами.

До XVIII века литовским татарам было дозволено жениться на девушках-славянках, дети которых воспитывались в "отцовской вере", то есть в Исламе.

Передача вероисповедания по отцовской линии содействовала сохранению татарами своей культурно-религиозной особенности.

Отношения в этих смешанных семьях были билингвистическими. Сначала это был суборнативный билингвинизм, татаро-белорусский или татаро-польский, позднее белорусско- или польско-татарский, как обычно бывает в таких этнически-языковых ситуациях. Поскольку этот билингвинизм носил массовый характер, то он не мог быть ничем иным, как суборнативным, при котором разговор на втором языке является элементом первой языковой системы. Ибо при втором типе билингвинизма – координативном – наблюдается правильность речи, которая последовательно принадлежит первому или второму языку. Такой билингвинизм встречается довольно редко, суборнативный билингвинизм с мужской стороны был явлением временным и подготовил себе постепенный переход к ответной ситуации – к чужому (в данном случае белорусскому) языку в качестве практически единственного средства общения.

Билингвинизм татар в Великом Княжестве Литовском носил, в основном, устный характер, ибо билингвинизм – это вообще ситуация речи, а не ситуация языка, поскольку в языке закрепляются результаты билингвинизма, и тогда можно говорить о конвергенции одного языка на другой.

Конвергенция татарского языка по отношению к белорусскому, как известно, не осуществлялась. Но это обстоятельство имело место в другом конце Великого Княжества Литовского – в обществе носителей армяно-кипчакского языка на Украине, которые также были в славяноязычном окружении. Армянокипчакский язык – это один из кипчакско-половецких языков Крымского ареала. Этот язык известен по армяно-письменным памятникам XVI-XVII веков, сочинённым почти исключительно в Камене-Подольском, Львове кипчаками, которые называли себя изредка "Хыпчак", но главным образом "ермени", то есть армяне, которые исповедуют армяно-григорианскую церковь.



Источником этого конвергентного армяно-кипчакско-славянского языка являются актовые книги общественного и духовного самоуправления армянских колоний. Вот образец того языка, на котором говорили предки татар-мусульман после переселения:

"Мені нізвыклай йерларда влашча корчмада ніейристойніе удават етійір; а не кі барыйік ескі суммалярдан утру теды помыат етійлар сатіс факційаны; дугул кі перебрат еткійедых евет баш смук да опустіт еттіх".

Возникновению конвергентного армяно-кипчакского языка, вероятно, способствовала компактность проживания и автохонность армян-кипчаков на Украине, чего не хватало у татар-мусульман Беларуси.

Перевод татарами-мусульманами своих религиозных книг на язык коренного населения белорусских земель в середине XVI века – факт весьма показательный для истории белорусского литературного языка. Кстати, до них (татар) перевели на белорусский язык свои книги евреи.

Особенностью и даже реликтовостью переводческой деятельности татар-мусульман Великого Княжества Литовского является, видимо, и то обстоятельство, что татары не владели и не пользовались в такой мере, как белорусы, кириличным письмом из-за его консервативной правописной традиции, в которой до последнего времени преобладал этимологическо-морфологический принцип в отличие от боснийских сербов, которые этой традицией владели и при переводе на арабское письмо переносили на его правописную традицию кириллицы. Для передачи специфических белорусских звуков речи белорусские татары дополнили арабское письмо несколькими буквами. Благодаря их текстам до нашего времени были донесены особенности "живого" (разговорного) языка предков белорусов, чего нет ни в одном тексте, написанном на старобелорусском языке кириллицей.

(Из сборника материалов II Международной научно-практической конференции "Исламская культура татар-мусульман Беларуси, Литвы и Польши и её взаимодействие с белорусской и другими культурами". Минск, 1996, т. 1).



## "БАЙРАМ" ПО-БЕЛОРУССКИ

***Оказывается, "многочисленностью" отличается не только собственно татарский народ, но и зарубежная пресса. Например, в Беларуси татары имеют свои издания на белорусском языке, в Польше – на польском, в Литве – на литовском, в Румынии – на своеобразном стуреченно-ногайском...***

Татар, издавна, вот уже 600 лет проживающих на землях Беларуси, Литвы и Польши, называют в науке литовскими, ибо их предки, крымские, поволжские и ногайские татары, начали расселяться на землях ВКЛ ещё в период правления великого князя Витовта.

Литовские татары, объединённые в эскадроны, полки и другие воинские соединения, сыграли значительную роль в истории как Речи Посполитой, так и Российской империи. Достаточно сказать, что в российской армии перед Первой мировой войной только генералов из числа литовских татар насчитывалось 15. Если брать более древний пример, можно вспомнить помощь славянам и балтам от тевтонской агрессии. Плечом к плечу рядом с поляками, литовцами, белорусами, русскими, чехами сражались два татарских полка, внесших большой вклад в победу. Достаточно сказать, что великого магистра Тевтонского ордена убил хан Багардин, а после разгрома крестоносцев только нежелание польского короля отдать лавры победы "басурманам" помешало легкой крылатой коннице татар молниеносным броском захватить столицу Ордена – Мальбург.

Особенностью этой этнической группы является то обстоятельство, что они постепенно утратили родной язык и перешли в общении между собой на белорусский, польский, частично литовский языки, однако в целях недопущения окончательной ассимиляции в большинстве своём остались верны Исламу, татарским традициям. Литовские татары оставили уникальные по своей значимости памятники письменности – так называемые китабы (книги), написанные на старобелорусском народном языке, но с применением арабского алфавита и арабского способа написания.

В эпоху межвоенной Польши татары уже имели опыт создания своей прессы. С присоединением к СССР Западной Белоруссии большая часть татар на несколько десятилетий осталась лишенной своих изданий. Лишь в 1991 г. удалось начать выпуск ежеквартальника "Байрам" на белорусском языке, а



позже – русскоязычной газеты "Жизнь". Кроме того, белорусские татары провели несколько международных научно-практических конференций, материалы которых издавались отдельными сборниками на белорусском языке.

Журнал "Байрам" представляет собой сборник научно-популярных статей по истории, культуре, религии, искусству как литовских татар, так и других этнических групп татарского, иных тюрко-мусульманских народов. Недавно по инициативе редактора "Байрама", лауреата Государственной премии Белоруссии, обладателя Серебряного знака ЮНЕСКО Якуба Якубовского журнал приступил к печатанию пробных статей "Энциклопедии татар Беларуси, Литвы и Польши", которые планируется издать отдельным томом.

Газета "Жизнь" (раньше называлась "Аль-Ислам") рассчитана на более массового читателя и рассказывает о жизни местных мусульман, основах Ислама, важнейших событиях и т.д.

"Китабы" ("Аль-Китабы") – религиозные книги белорусских татар, написанные на белорусском языке арабским письмом. Создавались они с XVI века татарами-мусульманами, что поселились в Белорусско-Литовской державе в XIV-XV веках и постепенно забыли свой родной язык. Для сохранения религии они вынуждены были переводить Кур'ан и другие мусульманские книги на белорусский язык (нередко с большим включением польских слов), оставив при этом арабский алфавит с добавлением особых букв, которые не применялись арабами. Содержание китабов – описание мусульманских ритуалов, событий, связанных с жизнью пророка Мухаммеда, морально-этические поучения для молодёжи, гадания по буквам Кур'ана, разгадка снов, восточные легенды, сказки, повести. Кроме китабов, выделяются тафсиры (Кур'ан с комментарием по-русски или по-польски), хамаилы (молитвенники).

В XVI-XVII веках большая часть татар не знала своего языка. Как свидетельствует автор "Рисале-и-татар-и-Лех" (это памятное письмо 1557-1558 гг. неизвестного татарина турецкому султану Сулейману Великолепному о татарах-переселенцах на Беларуси, Литве и Польше), родной язык в это время знали только те татары, которые переселились позднее. Тем, кто уже не понимал по-татарски, предлагалось: "Если кто по-татарски не умеет, то по русски нехай говорит", – текст первой половины XVIII века. Это обстоятельство вынудило переводить мусульманскую литературу на белорусский язык, сохраняя внешнее оформление (в том числе письмо) без изменения.

Изучение Китабов началось в XIX веке. Первооткрывателем их для науки считается профессор Петербургского университета востоковед Антон Мухлинский, который в труде "Исследования о происхождении и современном состоянии литовских татар" (СПб, 1857 г.) напечатал отрывки из Китабов и

отметил, что можно было создать из таких книг маленькую библиотеку. После смерти учёного (1877 г.) изучение текстов практически сошло на нет. О них вспомнили только в начале нынешнего столетия и позднее (Иван Луцкевич, Ефим Карский, Ян Станкевич, Акинер Ширин, Галина Александрович-Мишкинене и др.).

Основательно исследовал тексты Антон Антонович. В книге "Белорусские тексты, написанные арабским письмом" (1868 г.), он рассмотрел 24 оригинальных текста, хранящихся, в основном, в литовских архивах (один Китаб хранится в библиотеке Казанского университета под № 1446г). Антон Антонович дал подробную языковую характеристику, сказал о месте и времени возникновения каждого из исследованных китабов, рассмотрел графику, приспособленную татарами к белорусской фонетике, привёл транскрибированные отрывки.

Китабы написаны и читаются справа налево, текст начинается там, где в славянских книгах заканчивается. Количество страниц неодинаковое в каждом Китабе – от 700 до 300 (полукитабы) и до 1000 страниц. Строки цельные, нет разделов по словам, нет заглавных букв и знаков препинания. Перенос слов подчиняется одному правилу: каждая следующая строка должна быть равна предыдущей. Новое произведение (раздел) начинается словом "баб" (раздел, начало нового содержания) или "хикайет" (повесть, предание).

Язык Китабов отличается от языка старинных белорусских письменных памятников, они близки к белорусской народной речи. В текстах отражена белорусская лексика, фразеология, синтаксис. С помощью арабской графики, приспособленной к белорусской фонетике, более точно по сравнению с письменными памятниками, написанными кириллицей, передаются некоторые звуковые особенности белорусского языка. В Китабах активно используются восточные слова, обозначающие различные мусульманские ритуалы: селям, васият, джаназе, дуа и др. Немало восточных слов получают под влиянием белорусского языка другие формы (дуайка – уменьшительно-ласкательное от "дуа" – молитва; кафиране – от "кафир" – неверный и т.п.). Изучение Китабов даёт полезный материал для филологов, этнографов, фольклористов, историков, тюркологов, арабистов, исламистов. Каждый из Китабов представляет интерес для науки.

"Андарак" – старинная белорусская женская поясная одежда. По словарю Шиповой, "андарак" – слово тюрко-татарского происхождения. Этот род одежды представляет собой платье из домотканной шерстяной или полушерстяной ткани. Характерная окраска – разноцветные (зелёные, розовые, синие, белые) клетки или полосы на красном фоне. Андарак шили из трёх



или шести отрезов, на талии стянутых узким полотняным поясом. На Могилёвщине андарак имел пришивной лиф – "кабат", похожий на корсет. Как более тёплую и красивую одежду андарак носили и в праздники, а в пинско-ивацевичском строе обязательно вместе с андараком голова украшалась намоткой, и в этом случае такой строй становился очень похожим на строй казанских татарок.

**(Пресса Татарстана).**

***



## Салям алейкум, дорогой Якуб Адамович!

Казань шлёт Вам привет.

Недавно побывал у нас Бекир Радкевич, всюду ему оказали хороший приём. Через него я послал Вам дискету с последними номерами газеты.

Относительно Вашего блока просьб: наконец-то Татарская энциклопедия хоть что-то, хоть немного сделала для Вас. Посылаю подготовленный ими материал. Директор Энциклопедии хочет написать Вам письмо, не знаю, правда, напишет ли.

Словник Малой Татарской энциклопедии вышел пока на татарском языке, на русском языке выйдет ориентировочно в середине лета. Конечно, я вышлю Вам его. Вообще, в Энциклопедии не хватает сотрудников, поэтому, видимо, исполнение Ваших просьб затягивается. Я мог бы выполнить Ваши просьбы, но для этого нужно время. Попробуйте написать от "Аль-Китаба" официальное письмо на имя председателя Исполкома ВКТ Индуса Тагирова или министра информации и печати Ислама Галиахметовича Ахметдзянова с просьбой представить меня, скажем, на один месяц в распоряжение журнала "Байрам" для подготовки соответствующих материалов к Энциклопедии татар Беларуси, Литвы и Польши. Думаю, что такое письмо (или оба письма) не останется без внимания, и я смогу за один месяц если не полностью, то в основном удовлетворить Ваши просьбы.

Письма, если напишете, шлите мне домой.

**Фаяз Фаизов.**



## Из татарской энциклопедии

АБЗГИЛЬДИН Абрек Амирович (р. 1937), живописец, художник-монументалист. Нар. художник РТ (1995), засл. деятель иск-в ТАССР (1986). Автор настенных росписей и монумент.-декор. керамики в обществ. зданиях Казани: "Революция" (Молодёжный центр, 1972-1973), "История моды" (Дом моды, 1975), "Сабантуй" (Межвузовская столовая, 1979), живопис. картин "Сабантуй башкирский" (1970), "Сон Тукая" (1979), "Тукай" (1980). Пред. правления Союза художников РТ с 1993. Гос. пр. РТ им. Г.Тукая (1997).

ЗАКИЕВ Мирфатых Закиевич (р. 1928), языковед, дейст. чл. АН РТ (1991). Засл. деятель науки ТАССР, РСФСР (1970, 1976). В 1954-1965 в Казан. ун-те, с 1960 зав. каф. татар. языка, проф. (1964), в 1965-1986 в Казан пед. ин-те (проректор, с 1967 ректор, одноврем. зав. каф. татар. языкознания). С 1986 директор Ин-та языка, лит-ры и иск-ва АН РТ. Труды по синтаксису, истории татар. языка и татар. народа, языковой политике; учебники и уч. пособия по татар. языку для школ и вузов. Гос. пр. РТ (1994). Деп., пред. През. ВС ТАССР в 1980-1990.

ИСХАКОВ Камиль Шамильевич (р. 1949), глава адм-ции г.Казани (с 1991) и пред. Казан. гор. Совета нар. депутатов (с 1993). С 1973 на комс. и парт. работе в Казани. В 1980-1987 зам. директора, директор Казан. науч.-учеб. центра объединения "Алгоритм", в 1987-1988 ген. директор Казан. науч.-производ. объединения вычис. техники и информатики. В 1989-1991 пред. Казан. горисполкома. Деп. ВС РТ в 1971-1975, 1991-1995. Нар. деп. РТ с 1995.

КАЛИМУЛЛИН Рашид Фагимович (р. 1957), композитор, педагог. Засл. деятель иск-в ТССР, РФ (1990, 1996). С 1989 председатель правления Союза композиторов РТ С 1992 зав. каф. композиции Казан. консерватории. Осн. соч.: рок-опера "Крик кукушки" (1989), симф. поэма "Булгары" (1986), вок.-симф. поэма "Тишина и покой" (1987), струн. квартет памяти Г.Тукая (1986), камерно-инстр. произведения, песни. 1-я пр. Междунар. конкурса камерной музыки им. К.М.Вебера (1987).

ЛИХАЧЁВ Василий Николаевич (р. 1952), гос. деятель, юрист, чл.-кор. АН РТ (1994 ). С 1978 преподаватель Казан. ун-та (с перерывами: в 1982-1983 – школы права Республики Гвинея-Бисау, 1987-1988 – ун-та г.Антананариву Республики Мадагаскар). В 1988-1990 зав. отделом Татар. обкома КПСС. В 1990-1991 пред. К-та конституционного надзора РТ. В 1991-1995 вице-президент РТ. С 1995 пред. Гос. Совета РТ, одновр. с 1996 зам. пред. Совета Федерации Федерального Собрания РФ. Чл. Пост. К-та Палаты регионов Конгресса местных и региональных органов власти Европы (с 1995), чл. Парламентской Ассамблеи Совета Европы (с 1996). Труды по междун. праву.



МУХАМАДИЕВ Ринат Сафиевич (р. 1948), писатель, литературовед, обществ. деятель. Засл. работник культуры ТАССР (1986). Иссл. истории татар. лит. критики. Сб. рассказов для детей "Подарок на Новый год" (1979); ром. "Львы и канарейки" (1990, на рус. языке М., 1992), ист.-биогр. ром. о М.Султангалиеве "Мост над адом" (1992). В 1987-1989 дир. Татар. кн. изд-ва. С 1989 пред. правления Союза писателей РТ. В 1990-1993 деп: ВС РФ, нар. деп. ГС РТ с 1995.

МУХАМЕТШИН Фарид Хайрулович (р. 1947), гос. деятель. С 1972 на хоз., парт. работе, в 1989-1990 министр торговли ТАССР, в 1990 1-й секр. Альметьевского горкома КПСС, в 1990-1991 зам. пред. СМ ТССР. В 1991-1995 пред. През. ВС РТ. С 1995 премьер-министр РТ. Деп. ВС РТ в 1990-1995. Нар. деп. РТ с 1995.

ХАСАНОВ Мансур Хасанович (р. 1930), литературовед, гос. деятель, действ. чл. АН РТ (1992). Засл. деятель науки РТ (1995). В 1971-1984 зам. пред. СМ ТАССР, в 1984-1992 1-й зам. пред. СМ ТАССР (с 1990 ТССР, с 1992 РТ). С 1992 президент АН РТ, одновременно дир. Ин-та Татарской энциклопедии. Труды по методологии татар. литведения, истории татар. лит-вы, обществ. мысли, истории культуры и просвещения татар. народа, о лит. связях татар. лит-ры с др. лит-рами. Учебники татар. лит-ры для ср. школы. Деп. ВС ТАССР в 1963-1990.

ШАЙМИЕВ Минтимер Шарипович (р. 1937), гос., парт. деятель, первый Президент РТ. С 1959 на гос. работе, в 1969-1983 министр мелиорации и вод. хоз-ва, в 1983 1-й зам. пред. СМ ТАССР. В 1983-1985 секр. Татар. обкома КПСС. В 1985-1989 пред. СМ ТАССР. В 1989-1990 1-й секр. Татар. обкома КПСС. В 1990-1991 пред. През. ВС ТССР. Деп. ВС ТАССР в 1975-1990. С июля 1991 Президент РТ (в марте 1996 переизбран на второй срок). Чл. Совета Федерации Федерального Собрания РФ с 1994. Внёс большой вклад в укрепление полит. и экон. суверенитета республики, установление договорных отношений между РФ и РТ, развитие экон., культ. связей между РТ и гос-ми ближнего и дальнего зарубежья.

***

## ВЕЧАР ЧАТЫРНАЦЦАЦІГАДОВАЙ ДЗІНАРЫ

9 снежня 1998 г. ў гасцінnай зале Дома дружбы адбыўся вечар, прысвечаны юнаму кампазітару Дзінары Мазітавай, яе чатырнаццацігоддзю. Арганізавалі вечар Беларускі дзіцячы фонд і яго старшыня Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі.

Дзінары не спатрэбілася спецыяльна прыязджаць у Мінск: яна цяпер вучыцца ў Рэспубліканскім музычным ліцэі і ўжо вядомая музычнай грамадскасці. Дзінара стварае музыку, удзельнічае ў конкурсах. Апошняе яе дасягненне – званне лаўрэата адкрытага конкурса, прысвечанага 200-годдзю з дня нараджэння А.С.Пушкіна, праходзіўшага ў сакавіку 1998 г. Яна мела гонар іграць на сцэне Вялікай залы Маскоўскай кансерваторыі.

Сябрам Згуртавання "Аль-Кітаб" таксама знаёма прыгожае імя гэтай мілай дзяўчыны. У "Байраме" (№ 4, 1997 г.) мы змяшчалі нарыс В.Радзівонава "Пад сузор'ем Моцарта". Там жа быў змешчаны і верш, а Дзінара піша выдатныя вершы на рускай і беларускай мовах, "Великий Аллах!" Сама Дзінара прымала ўдзел у святочным канцэрце, прысвечаным 600-годдзю асадніцтва татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Яна акампаніравала на раялі ў час выканання "Гімна беларускіх татараў", які стварыла на вершы Якуба Якубоўскага.

На вечары ў Доме дружбы таксама прагучаў "Гімн беларускіх татараў" у выкананні саліста калектыва "Ліда мюзыкл". Салісты гэтага калектыва выканалі песні Дзінары Мазітавай на вершы вядомых беларускіх паэтаў Ніла Гілевіча, Змітрака Бядулі, Алеся Гурло і інш. Дзінара выканала ўрыўкі са сваіх опер і балетаў, у тым ліку і з балета "Дзюймовачка". На вечары адбылася прэзентацыя выдання балета "Дзюймовачка", якое здзейсніла выдавецтва "Чатыры чвэрці" пры Беларускім фондзе культуры. З рук кіраўніка выдавецтва Ліліяны Анцух Дзінара атрымала аўтарскія экземпляры. Экземпляр "Дзюймовачкі" перададзены і для нашага Згуртавання. Паэт Васіль Жуковіч уручыў імянінніцы свой пераклад з рускай мовы верша "Вялікі Аллах!"

Разам з Дзіцячым фондам Дзінару віншавалі яе блізкія – мама Святлана Апанасаўна, настаўнік Віталь Канстанцінавіч Радзівонаў, яе настаўнік па класе кампазіцыі, вядомы беларускі кампазітар Дзмітрый Браніслававіч Смольскі, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі Ігар Міхайлавіч Лучанок, гаспадар Дома дружбы Арсен Ваніцкі. Ведаў і думаў у той час аб свяце Дзінары музыказнаўца, старэйшы з сяброў Згуртавання "Аль-Кітаб" 89-гадовы Браніслаў Сільвестравіч Смольскі, ён быў вельмі блізка ў сваёй кватэры на вул. Захарава, але па стану здароўя не змог прыйсці. З Ліды ж прыехаў прыняць удзел у свяце намеснік мэра горада, бо Дзінара пераехала ў Мінск для працягу вучобы з Ліды. Сімвалічна, што 600 гадоў таму менавіта ў Лідзе атрымалі першае месца на сталае жыхарства воіны хана Тахтамыша. Па запрашэнні Віталя Канстанцінавіча Радзівонава прыйшлі на спатканне з творчасцю яго выхаванкі і прадстаўнікі "Аль-Кітаба" Разалія Александровіч і Фаўзія.

Кожны з нас, жыхароў Беларусі – грамадзянін гэтай святой зямлі, кожны з нас па-свойму ўпрыгожвае яе жыццё сваім талентам, сваёй адметнасцю. Кожны з нас, жывучы ў нашым агульным доме – Беларусі, належыць да пэўнай сям'і яго насельнікаў. Зусім яшчэ юная Дзінара Мазітава любіць і свой дом, і сваю сям'ю. Аб іх яе верш, які, упэўнены, закране і вашыя пачуцці.

**Ваш карэспандэнт.**





## АЛЛАХ ВЯЛІКІ!

**Дзінара Мазітава**

Якая ноч!
Аллах акбар,
Душой з сусветам гавару.
Каб зняць трывогі мне цяжар,
Малюся я за Беларусь.

У сэрцы зорны свет жыве,
Далёка да спакойных сноў.
Краіны дзве – матулі дзве –
Я мроіць буду зноў і зноў.

...Бушуе мора сярод скал,
Вятры гісторыі ўзнялі
Салёны і цяжэнны вал,
Як слёзы аб жывой зямлі.

Што грэла прашчураў найперш
Гарачай крымскаю парой

І дзе святы Карана верш
Душой быў чуты трапяткой…

О, Беларусь, табе хвала!
Краіна, мужная сама,
На скрыжаванні абняла
Рашучых, мужных мусульман.

Дала прытулак, сэрца жар,
Загартавала ў баях.
Мяцежны лёс маіх татар
Нясе гісторыя твая.

І я, нашчадак мусульман,
Аллах акбар, цябе малю
Імглу развей, рассей туман
Памілуй Беларусь маю.

Пераклад з рускай мовы **Васіля Жуковіча.**

***

## БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК ТАТАРСКІХ ІМЁНАЎ (працяг, пачатак у № 1, 2, 3 – 1998 г.)

### Жаночыя імёны

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| **А** | |
| Абаса | Аббаса |
| Азалія | Азалия |
| Азыма | Азыма |



| | |
|---|---|
| Айбіка | Айбика |
| Айгуль | Айгуль |
| Айдарыя | Айдария |
| Айджамал | Айджамал |
| Айзухра | Айзухра |
| Айназа | Айназа |
| Айсара | Айсара |
| Айша | Айша |
| Албіка | Албика |
| Аліма | Алима |
| Аліса | Алиса |
| Алія | Алия |
| Алмаза | Алмаза |
| Алмазія | Алмазия |
| Алтынбіка | Алтынбика |
| Алтынгуль | Алтынгуль |
| Альбіна | Альбина |
| Альміра | Альмира |
| Альфіна | Альфина |
| Альфіса | Альфиса |
| Альфія | Альфия |
| Аміля | Амиля |
| Аміна | Амина |
| Аміня | Аминя |
| Амра | Амра |
| Аніса | Аниса |
| Аніфа | Анифа |
| Ансарыя | Ансария |
| Анфіса | Анфиса |
| Асіля | Асиля |
| Асіма | Асима |
| Асія | Асия |
| Асылгуль | Асылгуль |
| Ахсана | Ахсана |
| **Б** | |
| Бадрыгуль | Бадригуль |
| Бадрынур | Бадринур |

| | |
|---|---|
| Бадрыя | Бадрия |
| Байрамбіка | Байрамбика |
| Байрамгуль | Байрамгуль |
| Бакіра | Бакира |
| Банат | Банат |
| Бану | Бану |
| Барбарыя | Барбария |
| Барыя | Бария |
| Басіма | Басима |
| Бахія | Бахия |
| Башыра | Башира |
| Бібігуль | Бибигуль |
| Бібізухра | Бибизухра |
| Бібікарыма | Бибикарима |
| Бібінур | Бибинур |
| Бібіфаціма | Бибифатима |
| Бібіхаліда | Бибихалида |
| Бібкай | Бибкай |
| Біка | Бика |
| Бікназ | Бикназ |
| Бэлкіс | Белкис |

## В

| | |
|---|---|
| Вагіза | Вагиза |
| Вазіра | Вазира |
| Вазіфа | Вазифа |
| Вазіха | Вазиха |
| Вакіля | Вакиля |
| Вакіфа | Вакифа |
| Валіда | Валида |
| Валізя | Вализя |
| Валіка | Валика |
| Валіма | Валима |
| Валія | Валия |
| Варыга | Варига |
| Варыда | Варида |
| Варыса | Вариса |



| | |
|---|---|
| Варыя | Вария |
| Васіга | Васига |
| Васіка | Васика |
| Васіля | Василя |
| Васіма | Васима |
| Васіха | Васиха |
| Васія | Васия |
| Вафіда | Вафида |
| Вафіра | Вафира |
| Вафія | Вафия |
| Вахіда | Вахида |
| Венера | Венера |
| Вінера | Винера |

## Г

| | |
|---|---|
| Габіда | Габида |
| Газіма | Газима |
| Гайша | Гайша |
| Галіма | Галима |
| Галія | Галия |
| Гаміра | Гамира |
| Ганна | Анна |
| Гільміназ | Гильминаз |
| Гільміра | Гильмира |
| Гільмія | Гильмия |
| Гінд | Гинд |
| Гіфат | Гиффат |
| Гузелія | Гузелия |
| Гузель | Гузель |
| Гулара | Гулара |
| Гуліна | Гулина |
| Гуліра | Гулира |
| Гулірам | Гулирам |
| Гуліса | Гулиса |
| Гулія | Гулия |
| Гульбанат | Гульбанат |
| Гульбіка | Гульбика |

| | |
|---|---|
| Гульдана | Гульдана |
| Гульдар | Гульдар |
| Гульдарыя | Гульдария |
| Гульзар | Гульзар |
| Гульміра | Гульмира |
| Гульмія | Гульмия |
| Гульнар | Гульнар |
| Гульнара | Гульнара |
| Гульніса | Гульниса |
| Гульсанія | Гульсания |
| Гульсара | Гульсара |
| Гульсарыя | Гульсария |
| Гульсафа | Гульсафа |
| Гульсіяр | Гульсияр |
| Гульфанія | Гульфания |
| Гульфарыда | Гульфарида |
| Гульфіра | Гульфира |
| Гульчыра | Гульчира |
| Гульшан | Гульшан |
| Гулюза | Гулюза |
| Гунча | Гунча |
| Гэлена | Гелена |
| Гюльнафіса | Гюльнафиса |
| Гюзелія | Гюзелия |
| Гюзель | Гюзель |

## Д

| | |
|---|---|
| Даіра | Даира |
| Даліля | Далиля |
| Далія | Далия |
| Даміна | Дамина |
| Даміра | Дамира |
| Дана | Дана |
| Даніла | Данила |
| Даніса | Даниса |
| Данія | Дания |
| Дарыса | Дариса |



| | |
|---|---|
| Дарыя | Дария |
| Даўлія | Даулия |
| Джаліла | Джалила |
| Джаміла | Джамила |
| Джанет | Джаннет |
| Дзілара | Дилара |
| Дзілія | Дилия |
| Дзільдарыя | Дильдария |
| Дзіна | Дина |
| Дзіяна | Диана |
| Дзюрніса | Дюрниса |
| Дынара | Динара |
| Дынарыя | Динария |

## З

| | |
|---|---|
| Забіра | Забира |
| Загіра | Загира |
| Заіда | Заида |
| Заіра | Заира |
| Зайнаб | Зайнаб |
| Закіра | Закира |
| Залія | Залия |
| Заліфа | Залифа |
| Заміра | Замира |
| Зарына | Заррина |
| Зарыя | Зария |
| Зафія | Зафия |
| Захрыя | Захрия |
| Зібуніса | Зибунниса |
| Зіда | Зида |
| Зілара | Зилара |
| Зінура | Зиннура |
| Зося | Зося |
| Зубайда | Зубайда |
| Зузан | Зузан |
| Зулейха | Зулейха |
| Зулія | Зулия |

| | |
|---|---|
| Зульнара | Зульнара |
| Зульфа | Зульфа |
| Зульфіра | Зульфира |
| Зульфія | Зульфия |
| Зульшат | Зульшат |
| Зумарыя | Зумария |
| Зухра | Зухра |
| Зухрагуль | Зухрагуль |

### І

| | |
|---|---|
| Ідалія | Идалия |
| Ідзія | Идия |
| Ікрама | Икрама |
| Іліда | Илида |
| Ілія | Илия |
| Ільбіка | Ильбика |
| Ільдарына | Ильдарина |
| Ільдарыя | Ильдария |
| Ільзінат | Ильзинат |
| Ільзіра | Ильзира |
| Ільміра | Ильмира |
| Ільназ | Ильназ |
| Ільнура | Ильнура |
| Ільшат | Ильшат |
| Ілюся | Илюся |
| Інсафія | Инсафия |
| Ірада | Ирада |
| Ірына | Ирина |
| Ірка | Ирка |
| Ісламія | Исламия |
| Іхліма | Ихлима |
| Ішбіка | Ишбика |

### К

| | |
|---|---|
| Кабіра | Кабира |
| Кавія | Кавия |



| | |
|---|---|
| Кагіда | Кагида |
| Кадрыя | Кадрия |
| Каліма | Калима |
| Камалія | Камалия |
| Каміля | Камиля |
| Карлыгач | Карлыгач |
| Карыма | Карима |
| Карымабіка | Каримабика |
| Касіма | Касима |
| Каўсарыя | Каусария |
| Кафіля | Кафиля |
| Кафія | Кафия |
| Каціфа | Катифа |
| Кашыфа | Кашифа |
| Кірама | Кирама |
| Кіфая | Кифая |
| Клара | Клара |

### Л

| | |
|---|---|
| Лазіма | Лазима |
| Лаіса | Лаиса |
| Ларыса | Лариса |
| Лаціфа | Латифа |
| Лейла | Лейла |
| Лена | Лена |
| Ленара | Ленара |
| Леніза | Лениза |
| Лідзія | Лидия |
| Лізіра | Лизира |
| Лілія | Лилия |
| Лімуза | Лимуза |
| Ліра | Лира |
| Лія | Лия |
| Луіза | Луиза |
| Люзіда | Люзида |
| Люзіра | Люзира |
| Люзія | Люзия |

| | |
|---|---|
| Люсіда | Люсида |
| Люцыда | Люцида |
| Люцыя | Люция |
| Лязат | Ляззат |
| Ляля | Ляля |

М

| | |
|---|---|
| Магданія | Магдания |
| Магдзія | Магдия |
| Magіра | Магира |
| Магфіра | Магфира |
| Мадзіна | Мадина |
| Мазіда | Мазида |
| Маймуна | Маймуна |
| Майсара | Майсара |
| Маліка | Малика |
| Марына | Марина |
| Марыя | Мария |
| Мар'я | Марья |
| Мар'ям | Марьям |
| Мар'ямбіка | Марьямбика |
| Мар'яна | Марьяна |
| Маўзіна | Маузина |
| Маўліда | Маулида |
| Маўлія | Маулия |
| Маўлюда | Мавлюда |
| Мафруза | Мафруза |
| Махдума | Махдума |
| Махіда | Махида |
| Махінур | Махинур |
| Махмуда | Махмуда |
| Мінджамал | Минджамал |
| Мінзалія | Минзалия |
| Мінсафа | Минсафа |
| Муза | Муза |
| Музакіра | Музакира |
| Музіфа | Музифа |



| | |
|---|---|
| Мукарама | Мукаррама |
| Мукіма | Мукима |
| Муніра | Мунира |
| Муніса | Муниса |
| Мусалія | Мусалия |
| Мусаміра | Мусамира |
| Мусліма | Муслима |
| Мусфіра | Мусфира |
| Мухтарыя | Мухтария |
| Мяр'ема | Мярьема |

**(працяг будзе).**

***

## ПАДАРУНКІ АД ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА

**Падарунак – рэч, якую дораць, падарылі.**
(З тлумачальных слоўнікаў).

**Ты шчодрым будзь! Хтось не забудзе**
**І ўспамяне цябе калісь**
**Ты не шкадуй нічога людзям,**
**Калі што людзям на карысць.**
(Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, пад кіраўніцтвам яго з часу стварэння выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" працаваў Я.А.Якубоўскі).

У апошні час усё больш заўважаю, што сам, мая кватэра напоўнены шматлікімі рэчамі, якімі шчодра адораны маімі суродзічамі, сябрамі, былымі саслужбоўцамі, маімі кіраўнікамі, добрымі і знаёмымі людзьмі, пісьменнікамі і паэтамі, іншымі творцамі. Ёсць у маім пакоі ў адной з сценак і спецыяльная

паліца, дзе знаходзяцца падарункі ад дарагога, блізкага, роднага і брацкага па духу, па імкненнях і памкненнях, па гісторыі, культуры і звычках народа – гэта беларускіх татараў і крышачку татараў з Крыма. Вось рэчы, атуленыя цяплынёй і клопатамі Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава, побач апошнія часопісы "Байрам", матэрыялы I і II міжнародных беларуска-татарскіх чытанняў і кніга С.У.-Думіна і І.Б.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць" з надпісам Ібрагіма Барысавіча арабскімі літарамі і па-беларуску: "У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага! Мір Вам, міласць Аллага Усявышняга і Яго благаслаўленне, дарагі наш сябар і брат Міхась! Шчыры дзякуй Вам за Вашу руплівую і самаадданую працу, за Вашы цікавыя і змястоўныя артыкулы, прысвечаныя беларускім татарам. Спадзяюся, што мы будзем і надалей (…)(калі Бог дасць) працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны – Беларусі. З павагай да Вас Ібрагім Канапацкі".

А ўсё астатняе на гэтай паліцы, я кажу ўсім, ад дзядзькі Якуба. Гэта ад Якава Адамавіча Якубоўскага. Ён сам сярод больш чым 10-мільённага беларускага народа вылічыў мяне, спачатку даслаў цераз аднаго, як аказалася, вельмі неахайнага і неабавязковага баранавіччаніна мне падарунак – часопіс "Байрам". Гэты гараджанін каля паўгода пратрымаў яго ў сябе, пакуль выпадкова не пабачыў мяне і не ўспомніў пра спецыяльнае дасланне Якуба Адамавіча. Я, канешне, адразу адгукнуўся. А потым у сваім горадзе і ў сваёй кватэры прымаў яго. Гэты дзень падараваў мне вялікага, шчырага і надзейнага сябра. І ён быў незвычайны! Гэта была дата ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. А пасля ад'езду застаўся назаўсёды цяжкі кніжны фаліянт "Живописная Россия" з такімі прыемнымі словамі: "Дарагому Міхасю, шчыраму сябру, беларускаму патрыёту, сапраўднаму географу ў дзень Вялікага Свята – 17 верасня. 1994 г. Баранавічы".

На кальцы, амаль што на ўсю сцяну, Якуб Адамавіч Якубоўскі асабіста для мяне вымаляваў карту майго зараз Баранавіцкага раёна, ды такую падрабязную, што мне нават у сне такое не магло прыйсці, а потым даслаў і сапраўдную карту, як і два спісы па алфавіце ўсіх населеных пунктаў Баранавіцкага раёна – адзін з іх з тымі вёскамі, якія ўваходзяць у той або іншы сельсавет, а таксама прылажэнні да іх, у якім годзе і якое паселішча было зменена па назве. Канешне, усё гэта дало і дае мне імпульсы, энергію і моц пры падрыхтоўцы шматлікіх гістарычных і краязнаўчых матэрыялаў.

Вось ксеракопія артыкула С.Александровіча "Баранавічы" з радкамі Я.А.Якубоўскага: "Часопіс "Беларусь", № 12, 1953 год. Міхась! Усе Твае прапановы цікавыя, але найбольш падыходзячай для гэтай канферэнцыі, як мне здаецца, будзе тэма пра паходжанне назвы Баранавічы, бо тут можна пагаварыць пра татар, нават пра татарскія карані Багрыма. У канцы ж, можна сказаць, што барынаў-баранаў прыдумалі не татары, але есці баранаў можна ўсім". Так, матэрыял па гарачых слядах думак Якуба Адамавіча з разважаннямі і Ібрагіма Барысавіча Канапацкага на гэты конт быў у той жа дзень напісаны, а потым надрукаваны і ў друку.



На паліцы на татарскую тэматыку знаходзяцца ўсе часопісы "Байрам", якія спецыяльна даслаў мне Якуб Адамавіч, канешне, надпісаў на іх няма, дзядзька Якуб рабіў гэта толькі ў рэдкіх выпадках. Тут і кніга Яўгена Гучка – паэта і сябры А.Я.Якубоўскага – ён гэты зборнік вершаў "Формула травы" асабіста прыдбаў для мяне, а вось ніякіх слоў ад яго рукі няма, толькі зялёным алоўкам падкрэслена:

"Успомнім з далёкай чалавечай мінуўшчыны, калі прамоўцу дазвалялася гаварыць перад сходам сваіх суплеменнікаў столькі, колькі ён мог у часе прамовы стаяць на адной назе. Упэўнен, вершы, напісаныя ў святле такіх патрабаванняў (менш слоў), могуць мець шчаслівы лёс: глядзіш – хто-небудзь і прачытае іх.

"…
Прырода!
Яна – і лічнік,
Яна ж – назоўнік".
"…
Яна заўжды ў зачацці,
Цяжарнасці і родах,
А чалавек… аборты прапануе".

Білет чытача за № 54680/41 Нацыянальнай Бібліятэкі Беларусі на маё імя – гэта таксама менскі падарунак Якуба Адамавіча Якубоўскага. Якраз у тыя дні я гасцяваў у яго з наведваннем гэтай установы, дзядзька Якуб незаўважна для мяне паспеў аплаціць кошт гэтага білета, каб потым радасна сказаць – гэта мой сталічны сюрпрыз.

У адзін з тых жа дзён 1997 года, калі па яго выкліку гасцяваў у гасціннай хаце Якуба Адамавіча і Тацяны Васільеўны, ён, як аказваецца, ведаючы маю няўтольную цікавасць і смагу да жывёл і раслін, прыгатаваў мне ў падарунак энцыклапедычны даведнік "Земнаводныя. Паўзуны" з такім прысвячэннем: "Дарагі Міхась! Нашы сучаснікі-земнаводныя, паўзуны – адпачываюць сабе ў лютыя маразы, у пахмурныя дні. Пастараемся і мы неяк перажыць цяжкі час, а можа і адагрэемся на сонейку. Яшчэ прыйдзе вясна! 20.01. 1997. Менск. Якуб Якубоўскі".

З гары Джамалунгмы падарункаў ад дзядзькі Якуба я выбраў толькі невялічкую частачку, але, як гэтыя рэчы грэюць, саграваюць, цепляць маю душу і

сэрца! Няма майго дарагога чалавека, вялікага дарадцы, шчырага сябра, а памяць у мяне аб ім пяройдзе і ў іншы свет, бо ён, як той доктар з мінулага стагоддзя з Масквы Гааз спяшаўся рабіць толькі дабро!

**М. Маліноўскі.**

***



*Дарагі Ібрагім Барысавіч!*

*Трэба спяшацца рабіць дабро, таму вырашыў апрацоўку лістоў Якуба Адамавіча рабіць неадкладна. Буду паціхеньку эпісталярную спадчыну дасылаць Вам, калі пабачыце, што недзе выпадзе, дык, калі ласка, напомніце гэта.*

*З вялікай павагай і нізкім паклонам*
*16 лістапада 1998 г.*
*г. Баранавічы*

***Міхась Маліноўскі.***



## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА (Якава Адамавіча Якубоўскага)

**Эпісталярная спадчына – сукупнасць чыіх-небудзь пісем.**
**Пісьмо – напісаны тэкст, які пасылаецца для паведамлення чаго-небудзь каму-небудзь.**
Спадчына – з'явы культурнага жыцця, побыту, укладу, якія ўнаследаваны ад мінулых эпох, папярэдніх дзеячаў.
(Архіў Міхася Маліноўскага, правадзейнага члена Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы).

Добры дзень, дарагі Міхась Міхайлавіч!

Беларускія татары жадаюць Вам добрага здароўя, помыслу ў працы і дабрабыту Вашым родным. Мой сябра – Ібрагім Барысавіч прапанаваў частку Вашага цікавага ліста надрукаваць у нашым "Байраме" у рубрыцы "Нам пішуць". Не ўзгадніўшы гэтага пытання з Вамі я не рашыўся, а ўзгадняць ужо было позна. Дашліце нам нумары тэлефона, па якіх з Вамі можна звязацца.



Я як пенсіянер маю права на безбілетны праезд у электрычцы, хоць толькі адзін раз ездзіў задарам у Віцебск. Ці можна ў адзін дзень паехаць, пагутарыць з Вамі і вярнуцца ў Менск? У вольны час я мог бы гэта зрабіць. Мне вельмі цікава будзе пагутарыць з Вамі, паслухаць Вашы парады, паказаць Вам, пра што Вы захацелі б і змаглі напісаць для энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", для квартальніка "Байрам", для новага часопіса "Джыхад", які чакаецца ў жніўні (ён будзе ахопліваць мусульманскую тэматыку, філасофію, мараль, побыт і ўсё-усё, што вартае, каб падтрымаць).

Са мною здарылася бяда. І 20 год таму памяць меў слабую, а цяпер зусім блага. Забыў у тралейбусе папку з важнымі матэрыяламі, дакументамі. Знаходжуся пад гэтым вельмі непрыемным уражаннем. Толькі сёння адважыўся напісаць Вам і ў Глыбокае спадару Уладзіміру Скрабатуну, краязнаўцу і таксама сябру татар. Прапанаваў глыбачанам рыхтавацца да 50-годдзя Перамогі (даць спіс усіх пацярпелых ад вайны, сабраць звесткі з дапамогай грамадскасці, старшакласнікамі, надрукаваць на машынцы, можа да 100-годдзя, разбагацеўшы, можна будзе надрукаваць кнігу). Прапанаваў ім не чакаць указаў, а рыхтавацца да 2000-гадовага юбілею нараджэння Ісуса Хрыста (1000-годдзе не адзначалася, бо тады быў не такі каляндар).

Буду закругляцца, як кажуць, бо пры размове не так заўважаюцца памылкі, а значыць і не так будзе мне прыкра, што за 600 гадоў татарын так і не вывучыў як след беларускую мову.

Пішыце мне адрас на рускай мове, бо рускаязычнікі і мясцовыя манкурты ад злосці і дурасці нішчуць карэспандэнцыю на беларускай мове. І скардзіцца няма каму, самі ведаеце.

Прывітанне ад маёй сям'і – сына Кастуся і жонкі Таццяны.

29.07. 1994 г. **Якуб Якубоўскі.**



Салям алейкум, добры дзень, вельміпаважаны спадар
Міхась Міхайлавіч!

Быў у рэдакцыі часопіса "Гаспадыня". Ветлівая Лідзія Іванаўна Жук, калі толькі глянула на Вашу запіску, адразу назвала Вас. Знайшла і аддала рукапіс.

Узгадніўшы гэта з рэдактарам, які недзе быў у іншай установе. (...) Я так зразумеў, што яна проста закаханая ў Вас.

Паразумеўся па тэлефоне і сустрэўся ў рэдакцыі з Кушнерам. Рэдакцыя ў будынку універсітэта, насупраць былой Ленінскай, а цяпер Нацыянальнай Бібліятэкі. Рукапіс яму перадаў, пра што сведчыць запіска.

Можа і не вельмі далікатна, але я некалькі старонак рукапісу прачытаў. Васілю Фёдаравічу Кушнеру я сказаў, што гісторыя з Багрымам нагадвае казку братоў Грым пра касцюм караля. Кожны з набліжаных да караля, баючыся, што іх прызнаюць неадпаведнымі пасадзе, распісвалі прыгажосць уяўнага касцюма. У ліку тых, хто пісаў пра Багрыма, быў, на жаль, і татарын С.Александровіч. На самой справе пра касцюм, пра яго адсутнасць, сказаў толькі адзін хлапчук, які не баяўся страціць пасаду. Можа маё параўнанне і не пасуе, але гэта было сказана і для Кушнера, няхай робіць выснову, ці быць яму з тымі, хто хваліў уяўны гарнітур караля, ці з праўдзівым хлапчуком. Вялікі дзякуй Вам за газетныя артыкулы. Зычу Вам новых поспехаў.

Чакаю брата, які павінен прыехаць з Віцебска. 17 верасня ў 7.30 збіраюся на электрычцы выехаць у Баранавічы, буду стаяць каля вагона № 3. Калі не сустрэнуся з Вамі, то паездка мая будзе карыснай, бо прысвяціў яе Дню ўз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі. Падзея адбылася ў 1939 годзе. Афіцыйна на Беларусі яе не адзначаюць. Няхай жа хоць татары парадуюцца за гэта свята. Збіраюся 17 верасня і ад'ехаць у Менск.

Да сустрэчы, дарагі Міхась Міхайлавіч! Прывітанне Вам ад Ібрагіма Канапацкага.

2 Раббі уль-Ахыра 1415 г. Хіджра – 9 верасня 1994 г.

**Якуб Якубоўскі.**

Добры дзень, дарагі Міхась!

Па розных прычынах не змог Вам напісаць ліст. Перш за ўсё чакаў на выхад "Байрам" № 3, але ён затрымаўся і няведама калі будзе надрукаваны. Цяпер баюся, што не ўсё патрэбнае напішу Вам. Перш за ўсё віншую Вас з публікацыяй, пра якую даведаўся праз "ЛіМ", "Нёман, Нямунас, Мемель". Мне вельмі цікава пра тое, што надрукавалі.

Ібрагім Канапацкі, яго жонка Ганна, мая жонка Таццяна вельмі ўдзячны Вам за Вашы падарункі, за кнігі, ягады, рукавіцы, пантоўкі і за добрыя словы.



(...)

Гаварыў пра Вас з Ляўковым Эрнстам Аркадзьевічам. Ён вельмі заміляваны да Вас і передае Вам свой паклон.

Ібрагім Канапацкі дасылае Вам кнігу, якую часткова напісаў і ўзяў усю арганізацыю выдавецтва (гэта была не вельмі лёгкая справа, бо ні яўрэі, ні украінцы, ні палякі яшчэ не падрыхтавалі рукапісы пра свае ж народы, а татары вытаркнуліся). Ніл Сымонавіч Гілевіч аказаў нам падтрымку і кніжачка выйшла. Брашура Антона Мухлінскага была ў адным паасобніку ў Бібліятэцы імя У.І.Леніна і тая прапала, засталася фільмакопія. Ібрагім Канапацкі паклапаціўся, каб з гэтай фільмакопіі зрабілі брашуру, знайшоў спонсараў і кніжачка выйшла. Вокладку я абдзер, таму што яна патрэбна была на стэнд на выставе публікацый пра татар. Гэту без кашулі брашуру пасылаю Вам, а ў наступным лісце апішу выгляд былой вокладкі.

Усяго Вам добрага.

4.10. 1994 г. **Якуб Якубоўскі.**

✉

*Дарагі Ібрагім Барысавіч!*

*Вось паціху перапісваю эпісталярную спадчыну Якуба Адамавіча і зноўку жыву яго жыццём, турботамі, як і ён маімі.*

*Мне так здаецца, што калі надумаеце друкаваць гэтае ліставанне, дык нумарацыя не патрэбна. Я яе даю, каб было бачна, што да Вас дайшло, а што не.*

*Перапісваць яшчэ шмат. Якуб Адамавіч толькі з пастаноўкай у мяне тэлефона амаль што перастаў пісаць, а так, калі трэба, адразу тэлефаніў, але пры гэтым ад мяне патрабаваў ліставання, што я рабіў яму і радасна, і так, як прыдзецца на дурную маю галаву...*

*З усяго яго толькі не выканаў пакуль – гэта не напісаў пра татарскія карані Багрыма. У чарнавіках нешта ёсць, а чагосьці мне яшчэ не хапае да яго...*

*З павагай і нізкім паклонам*
*18 лістапада 1998 г.*
*г. Баранавічы* ***Міхась Маліноўскі.***



Добры дзень, дарагі Міхась!

Шлю Вам прывітанне ад Тацщяны і Кастуся. Учора я прыйшоў дамоў а 17 гадзіне. Сын сказаў, што Вы былі ў Менску, што я мог пагаварыць з Вамі, але вельмі спазніўся. Мы з Ібрагімам складалі ліст у Вялікабрытанію, каб нам брытанцы перадалі кнігу рукапісную Аль-Кітаб, якая зберагласе ў час вайны і цяпер знаходзіцца ў бібліятэцы. Кніга напісана на беларуска-польскай трасянцы, але гэта кніга для нас вельмі дарагая. Вельмі ўдзячны Вам за артыкул пра заснавальніка Менска. Гісторыя толькі тады і цікавая, калі яна не праўдзівая, а каля праўды. Да таго часу, пакуль крыжаносцы не пабывалі на Блізкім Усходзе, дзе ўбачылі і навучыліся, як рабіць вятракі і вадзяныя млыны, малолі ў Еўропе на ручных жорнах. Дык толькі ў канцы 13, а можа ў 14 ст. на Беларусі маглі паявіцца млыны, а заснаваны Менск быў у 1067 годзе. Мой стары сябра, чалавек з гумарам, расказаў мне пра тое, што нейкія эстонцы знайшлі пры земляных раскопках паблізу замка дрот. На гэтай падставе зрабілі выснову, што ў старадаўнія часы эстонцы мелі тэлефонную сувязь з другім замкам. Рускія даследчыкі пра нейкі наўгародскі замак мелі падставу сказаць, што абаронцы горада мелі з наваколлем сувязь па радыё. На якой падставе? А дроту яны, археолагі не знайшлі, значыць у наўгародцаў была радыёсувязь.

Пакрысе буду адказваць на Вашы да мяне пытанні, пачну з найлацвейшых.

Назву нашаму квартальніку даў Віталь Скалабан, кандыдат гістарычных навук, заг. рэд. гісторыі ў БелЭн, укладальнік кнігі "Памяць" Ляхавіцкага раёна.

Ляўкоў Эрнст Аркадзьевіч абяцаў сфатаграфацца і перадасць праз мяне сваю фатаграфію для Вас. Тое ж зраблю і я з цягам часу.

Ібрагім Канапацкі размаўляў з доктарам гістарычных навук, супрацоўнікам рэдакцыі газеты. Вельмі Ібрагім засмуціўся той размовай. Ён сказаў, што пагаворыць з рэдактарам газеты, толькі жадаючых нешта надрукаваць у газеце многа, асабліва сярод тых, хто мае званне, займае пасаду, але не нясецца, г.зн. нічога не друкуе. Вось кандыдатам навук і трэба мець друкаваныя працы, каб не сказалі, што яны бясплодныя. Ібрагім казаў, што з размовы ён даведаўся, што Ваш артыкул пра канал Агінскага будзе ў лютым ці сакавіку надрукаваны.

Маем крыху клопату з ад'ездам сына на вучобу, трэба купіць білет, сёе-тое ў дарогу.

У канцы мая Ібрагім Канапацкі ладзіць канферэнцыю па тэме "Мусульманская культура беларускіх татараў на землях былой Беларуска-Літоўскай дзяржавы". Ды толькі яшчэ і цяпер матэрыялы мінулай канферэнцыі не надрукаваны. Цана 1 т паперы каштуе больш за 10 млн руб., так што чыстая



папера даражэйшая за кнігу. Ніхто не будзе купляць кнігі. У Менску 1 бульбіна каштуе 100 руб.

Калі хто-небудзь галоднаму натоўпу пакажа выйсце з бядотнага становішча, то няхай ён будзе як Жырыноўскі ці як Чыкін, за ім могуць пайсці. І лозунг можа быць ленінскі: "Грабь награбленное". За некалькі дзён размятуць усе фірмы, лаўкі, забягалаўкі. Дачакаюцца чыноўнікі чорных дзянькоў і для іх.

І яшчэ крыху пра млын. Калі б Вам хто-небудзь сказаў, што на Волзе ў раёне Валгаграда, ці на Дняпры ў раёне Кіева, ці на Заходняй Дзвіне ў раёне Віцебска нехта пабудаваў вадзяны млын, то ці паверылі б Вы ў гэта? На Свіслачы, на сучаснай тэрыторыі Менска таксама нельга было пабудаваць млын, бо для гэтага патрэбна плаціна, каб зрабіць перапад узроўню вады хоць бы на 2 метры. У XI ст. гэта на такой рацэ было немагчыма. Можна гаварыць хіба пра млын на р.Няміга, ці яшчэ меншай.

Вядома, дарослым людзям таксама патрэбны казачкі, от хоць бы пра тое, што быў залаты век, ці пра тое, што нас чакае светлая будучыня.

***З кнігі "Бяздоннае багацце", Мн., "Мастацкая літаратура", 1990. Складальнік А.І.Гурскі. Старонка 137. Паданне пра заснаванне Менска.***

Між Татарскім канцом і Пярэспінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менска не бачыў, тым не менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну з храбрых, смелых, дружных людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млынам.

Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата – Менск.

У Траецкім прадмесці, на востраве на р.Свіслач, планаваўся помнік легендарнаму Менску, але перамаглі "афганцы" і для іх, палеглых і жывых, будуюць тут помнік. А Менска "рускоязычные" лічаць беларускім нацыяналістам, нават фашыстам.

Упершыню ў летапісах назва Вільня ўпамінаецца пад 1323 годам. Як жа ля самага Віленскага шляху пабудавалі млын, калі горада з назвай Вільня не было? Але, як кажуць, свет вялік, усякае бывае.

Усяго Вам добрага. Прывітанне ад маіх хатніх, ад Канапацкага, сёння я з ім сустракаўся. Прывітанне ад мяне нашым дарагім паэтам, музыкам, лоцманам у кніжным моры.

1 лютага 1995 г. **Якуб Якубоўскі.**



Добры дзень, дарагі Міхась!

Атрымаў ад Вас ліст. Віншую Вас з цудоўным артыкулам "Кавалер ордэна Льва Сонца". Днямі напішу ў "Настаўніцкую газету", дзе параю ім друкаваць такія артыкулы, а тады выдаваць іх асобнай кніжкай. Можа гэта так і робіцца, але я не ведаю.

З аказіяй праз нашу татарку Галіну Хусаінаўну Хамідуліну (яе тэлефон у Баранавічах 2-32-59, удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, доктар-акуліст. У 1-м нумары "Байрама" за 1995 год будзе надрукаваны яе вельмі цікавы артыкул).

Прывітанне Вам ад Таццяны, ад Канапацкага. Перадайце ад нас прывітанне паэтам, музыкам, лоцманам у кніжным моры.

10 лютага 1995 г. **Якуб Якубоўскі.**



## Ліст у рэдакцыю "Настаўніцкая газета"

Добры дзень, вельміпаважаная рэдакцыя!

На мой ліст не трэба адказваць, рэагаваць, проста некалькі хвілін прыдзецца Вам згубіць, каб яго прачытаць. Гэта разважанні старога чалавека, які ў маладосці працаваў настаўнікам. Зрэдку і цяпер куплю "Настаўніцкую газету", хоць рэдка калі знойдзеш яе ў продажы, а падпісацца не выпадае.

Вельмі добрая, цікавая газета. Апошнім часам давялося прачытаць два артыкулы, якія мяне вельмі ўразілі. Гэта артыкул пра Каятана Касовіча, выдатнага вучонага-усходнезнаўца, пра якога напісаў М.Маліноўскі, а таксама "А тата не прыйдзе..." Ларысы Дзейкун.

І яшчэ мне падумалася, чаму такі розны лёс журналістаў, пісьменнікаў і складальнікаў песень і спевакоў. Калі ўдалося каму-небудзь з артыстаў эстрады выбіцца на сцэну, часам і з добрай, цікавай песняй, то яе выконваюць ці не дзесяткі разоў на дзень, праз месяц ужо ад такой песні недзе дзецца, а праз год ніхто пра яе не ўспомніць. А пра добры артыкул у газеце? Хоць бы пра тыя, што надрукаваны ў "Настаўніцкай газеце", якія я згадаў. Пройдзе нейкі час, два, тры, пяць год. Падрастуць і прыдуць на працу новыя людзі, настаўнікі. Вы думаеце, што яны кінуцца чытаць падшыўкі газеты за мінулыя гады? Ды можа толькі ў педкабінеце (а ці ёсць цяпер такія, бо даўней былі пры РайАНА) можна і знайсці такую, бо па беднасці наўрад ці раённая бібліятэка выпісвае "Настаўніцкую газету". Дык што я прапаную? Самыя цікавыя артыкулы збіраць і выдаваць іх у выглядзе зборнікаў, можа тэматычных (пра мараль, гісторыю, літаратуру), тады цікавыя рэчы не прападуць, ці хоць бы будуць не разавага карыстання. Ды і аўтары ўдалых артыкулаў, рэдактары-літсупрацоўнікі газеты будуць узнагароджаны тым, што рабілі артыкул не аднадзёнку. Тым, хто піша ў Вашу газету, таксама сказаць аб гэтым.

Толькі, відаць, гэта ўжо даўно робіцца, а я аб гэтым не ведаю, бо "Чырвоная змена", ці нейкая іншая газета (можа "Народная газета") выдала кнігу пра 100 пытанняў па гісторыі Беларусі, а цяпер нават перавыдае.

Прашу прабачэння за тое, што забраў Ваш час.

14 лютага 1995 г. **Якуб Якубоўскі.**



Добры дзень, дарагі Міхась!

Пішу Вам ліст, хоць друкаваць мне больш падабаецца (лягчэй растлумачыць, чаму памыліўся – памылкі друку, а як пішаш рукою, тады гэта ўжо памылка галавы).

Вельмі Вам удзячная Таццяна за віншаванне са святам. Дзівуюся, што надрукавалі маю нататку ў "Настаўніцкай газеце" (...).

У бібліятэцы прачытаў Ваш артыкул пра Аляксандра Іванавіча Казарскага. Хачу крышачку пашпартацца вакол гэтай тэмы. Аўтар кароткага энцыклапедычнага артыкула ў БелСЭ М.Камінскі. Я думаю, што ён не памыліўся, падаўшы дату нараджэння Казарскага 1798 г., бо гэта быў вельмі вопытны архіўны работнік. Але не гэта галоўнае. Рускія, відаць, маюць рацыю, калі пішуць, што рускі вучоны, рускі пісьменнік – гэта той, які пісаў, дзеіў, рабіў нешта на тэрыторыі Расіі, і тут не мае значэння, што ён нейкі фон Візін, яго рабілі Фонвізі-

ным. А калі ён ці яна нешта зрабілі за мяжой, але былі па паходжанні з Расійскай імперыі, тады ... тады ўсё роўна лічылі яго ці яе рускай, як Соф'ю Кавалеўскую, якая стала доктарам навук, а родам з беларусаў і яшчэ недзе глыбей – з татараў.

Беларусы ж аддалі сваіх сыноў і дачок. Трэба іх вяртаць, ну можа не так ужо зацята, як армяне і палякі, калі нават злодзея (Фэлікс Зданкевіч), ці нейкую куртызанку шануюць толькі за тое, што яны ў сваёй галіне "дзейнасці" займалі першае месца ў свеце. У Аўстраліі цяпер маюць вялікі клопат з тым, што найвышэйшы пункт 2230 м над узроўнем мора названы гарой Касцюшкі. А гэтым трэба ганарыцца нам. Калі такія рупліўцы, як Вы, Міхасёк, будуць працаваць шчыра на карысць Беларусі, то дзесяткі і дзесяткі, а можа і сотні славутых людзей свету хоць пасля смерці тых добрых людзей, але знойдуць прыстанішча на Беларусі. Можа ў якім-небудзь музеі знойдзецца пакой, дзе будзе выстава экспанатаў і іншых матэрыялаў пра славутых беларусаў. Недзе ў ЗША на вялікай скале выбіваюць галаўныя партрэты славутых прэзідэнтаў ЗША. Нешта падобнае рысавалі пра павешаных дзекабрыстаў, нешта падобнае вешалі на кожнае рэвалюцыйнае свята: Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін.

Ну, а цяпер галоўнае: неадкладна, да канца сакавіка дашліце мне сваю падрабязную аўтабіяграфію. Для чаго? Хачу ў "Байраме" надрукаваць пра Вас артыкул, бо татарам пра гэта цікава.

(...).

Яшчэ раз вяртаюся да Казарскага. Артыкул Ваш цікавы, інфармацыйны. Гэта скажа кожны. Прывітанне Вашым сябрам-паэтам і музыкам. Рады таму, што ў "ЛіМе" надрукаваны верш Вашага сябры.

Быў у пасольстве Ізраіля, перадаў "Байрам" з Вашым артыкулам, але толькі ў рукі сакратаркі Бэлы, бо дыпламат быў заняты.

Абдымаю, пацiскаю руку.

7 сакавіка 1995 г. **Якуб Якубоўскі.**

***



## КАЛЯНДАР АМАРА ХАЙЯМА

Я чытаю гэтую рубайю (чатырохрадкоўе):

Много лет размышлял я над жизнью земной.
Непонятного нет для меня под луной.
Мне известно, что мне ничего не известно! –
Вот последняя правда, открытая мной.

аднаго з самых выдатнейшых паэтаў свету Амара Хайяма (каля 1048 – каля 1131, у іншых крыніцах год смерці каля 1123) і бачу яшчэ ў ім буйнейшага вучонага сярэдневекавога Усходу, філосафа, матэматыка, паліглота і астранома. Сярод іншых здабыткаў свету – і каляндар, які быў названы яго імем.

Каляндар Хайяма вельмі дакладны, матэматычна вывераны, гэта гонар арабскага ўсходу. Канешне, у яго распрацоўцы бачны і геній, і досыць карпатлівая праца гэтага незвычайнага па талентах чалавека.

У тварэнні розуму А.Хайяма мелася 11 месяцаў па 30 дзён, а дванаццаты месяц меў 35 дзён.

Так, як бачна, дакладнасць гэтага каляндара вельмі дзівосная! І як у сувязі з гэтым не ўспомніць вось гэтую рубайю:

Я – школяр в этом лучшем из лучших миров.
Труд мой тяжек: учитель уж больно суров!
До седин я у жизни хожу в подмастерьях,
Всё ещё не зачислен в разряд мастеров...

Як піша ў сваёй кнізе "Нить времён" Сяргей Кулікоў (даецца ў перакладзе): "Самым важным было супадзенне пачатку году (Наўруз) з вясеннім раўнадзенствам. У якасці падыходзячага дробу Хайям выкарыстоўваў лік 8/33, г.зн. у перыядзе з 33 гадоў 8 былі вісакоснымі. Каб унутры гэтага перыяда раўнадзенства ні разу не адыходзілі больш чым на палову сутак, яны размяшчаліся так: сем разоў цераз тры гады на чацвёрты, а апошні раз – цераз чатыры гады на пяты. Пачатковае веснавое раўнадзенства было прызначана на эпоху 15 сакавіка 1079 г. Пагрэшнасць у адны суткі назапашваецца прыкладна за 4500 гадоў.

Яшчэ раз звернемся да славутых рубайяў Амара Хайяма:

Даже гений – творенья венец и краса –
Путь земной совершает за четверть часа.
Но в кармане земли и в подоле у неба
Живы люди – покуда стоят небеса!

Усё гэта так! І вось гэтыя людзі ў скарбніцах гісторыі і навукі захавалі і каляндар самога Хайяма. Застаецца толькі шкадаваць, што ён так і не быў прыняты светам.

**Міхась Маліноўскі.**

***

## СПЕШИТЕ ЗАНЯТЬ КУПЕЙНЫЕ МЕСТА В ПОЕЗДЕ, ОТПРАВЛЯЮЩЕМСЯ В ЦАРСТВО БОЖИЕ

Работа Акбашева Талгата Фатыховича "Третий путь", Самиздат, 1998 г., является плодом его многолетних исследований, апробации, осенений. По важности поднятых вопросов она не имеет себе аналогов, как в странах СНГ, так и за его пределами. Построить путь в Царство Божие на рубеже второго и третьего тысячелетий, и причём такой, чтобы проследовать по нему с минимальными потерями. Постановка задачи не нова. Она будоражила и будоражит лучшие умы на протяжении нескольких тысячелетий во всём мире. Лучше всего этот вопрос освещён в иудейской, христианской и мусульманской религиях. Однако голоса пророков – Моисея, Иисуса и Мухаммеда, передавших нам "Слово Божие", большинству из нас дошли в душу и сердце по тем или другим причинам плохо, или вовсе не дошли. Например, такое слово Иисуса Христа из неканонизированного Евангелия от Фомы: "Царство небесное внутри нас и вне нас, только это никто не занет, ибо если бы оно было в небе, то птицы бы туда первые прилетели". Потому-то у нас такое преступнобезответственное отношение к самому себе, ближнему и окружающей среде. А потому мы и имеем то, что имеем, и потому постановка вышеуказанной задачи очень злободневна. Однако метод решения поставленной задачи, мягко говоря, некорректен. Если данную задачу описать на формальном языке в самом общем виде, то получится бесконечное множество линейных, дифференциальных и интегральных систем уравнений с бесконечным множеством неизвестных в бесконечно больших и бесконечно малых степенях. А автор работы такие глобальные системы уравнений решает, используя, если так можно выразиться, "точечный" метод, подставляя в них, условно говоря, данные о



духовном состоянии одного отдельно взятого человека, прошедшего курс обучения в рабочих группах по его методике, заложенной в разработанной им "педагогике эволюции", в основу которой положены изречения Иисуса Христа: "Возлюби ближнего как самого себя" и "не суди, да не судим будешь" и тому подобные. Не понимаю, как мог рецензент исследуемой работы, доктор биологических наук, профессор С.В.Сперанский восхвалить такой ляпсус автора, что некий "генетический код", независимо от людского рода, внедрится некой "планетарной ситуацией" в плоть вновь рождающихся в настоящее время людей, которые будут членами некой "новой расы землян". А где же эволюция, сторонником которой так рьяно старается быть автор. Какой абсурд втесался в науку о генетике. Отцам и матерям этих вундеркиндов остаётся только бережно воспитывать подобных детей по вышеуказанной методике автора, и с этим, так называемым душеспасательным "кодом" дружно топать в "Царство Божие". Непонятно, из каких источников почерпнул автор, что за последнее время в России рождается ежегодно 70% детей с вышеупомянутым кодом? А почему надо спешить занять купейные места в дорогу в "Царство Божие"? Опять страх не опоздать, опять давай-давай и потом снова пятилетки, просветкульты, ликбезы, стройные ряды, винтики, шпунтики и другие штучки-дрючки, только уже на более высоком "научном" уровне по спирали на следующий, так называемый виток или фазу. Но мы уже это проходили, и это вы нам не зададите. Совет автору: читайте по утрам "Православный молитвослов", утреннюю молитву, которая вас успокоит и пусть всё идёт своим чередом. Ведь поспешность нужна только при ловле блох. Ведь сказано: "Что ни делает Бог, то всё к лучшему". А вот то, что вы делаете, то это от лукавого. А в утренней молитве по этому поводу сказано: "К Тебе Владыко Человеколюбче, от сна восстав прибегаю и на дела Твоя подвизаюся милосердием Твоим, и молюся Тебе: помози ми на всякое время, во всякой вещи, и избави мя от всякия мирские злые вещи и диавольского поспешания, и спаси мя и введи в Царствие Твоё вечное. Ты бо еси мой Сотворитель и всякому благу Промышленник и Податель, о Тебе же всё упование моё, и Тебе славу возсылаю, ныне и присно и во веки веков. Аминь".

Как говорят, здесь комментарии излишни. А теория отражения и метод познания по В.И.Ленину, предпочтённый автором в Божьем деле, звучат кощунственно. Они могут быть использованы для решения частных задач.

**Адам Асанович.**

***

## ВРЕМЯ НОВОЙ ЭПОХИ – ВРЕМЯ ЖИЗНИ



Здравствуйте, дорогие читатели!

Позвольте предложить вашему вниманию новую рубрику "Время новой эпохи – время жизни", ибо пришло время приподнять занавес и открыть дверь новой эпохе.

Сказки, предлагаемые мною, даже нельзя назвать сказками, ибо это мудрость жизни; быль, стоящая за кадром и прочувствованная сердцем, проверенная жизненным опытом Матери и Бабушки.

Тяжело заболев и ища выход, мне удалось не только поправить физическое здоровье, но и выйти на Путь Сознательного Творения Своего Будущего...

"В природе нет никаких тайн, а есть та или иная ступень познания..."

Те знания, которые мне открылись, и боль за судьбу всех детей планеты дали мне недостающий импульс, и в 43 года, работая инженером, мне посчастливилось коснуться пера Творчества, чтобы подарить людям Сказки Новой Эпохи, чтобы помочь осознать ту ответственность, которая возлагается на человека Сейчас.

Низкий поклон читателям новой рубрики. Пусть волшебное зерно этих сказок и Любовь Материнского Сердца помогут всем читателям избавиться от болезни и выйти на Путь Сознательного Творения Своего Будущего, Путь Миротворцев.

**Гайдукевич Татьяна.**



## ЗВЁЗДОЧКА

В одной удивительной стране жила-была девочка. Она любила гулять с подружками, любоваться солнышком и слушать, как поют птички. Она была обыкновенной девочкой, как миллионы других.

Однажды над её страной пронеслась страшная туча: небо потемнело и страна "Голубых озёр" превратилась в страну "Печали"... Грибы и ягоды в лесах сделались несъедобными, люди перестали смеяться, радоваться жизни. Печать горя и болезни омрачила их лица.



Заболела и девочка. Все её подружки и она сама решили, что во всём виновата туча. Но однажды девочка встретила добрую фею и узнала, что страна, в которой она живёт – волшебная. И управляет этой страной мудрая сила любви и добра. Для того, чтобы быть здоровой, нужно научиться любить и делать добро людям. Хорошо бы попросить прощения у тех, кому ты причинил страдания, живя неправильно, и простить всех, обидевших тебя. Девочка очень удивилась... Это было столь необычно! Она долго думала об этом и решила попробовать.

Оставшись одна в комнате, долго-долго сидела она у окна и вспоминала всю свою жизнь... Горькие слёзы раскаяния текли у неё по щекам. Она мысленно попросила прощения за все свои ошибки и сразу почувствовала облегчение. Ей захотелось петь... Огонь добра и счастья светился в её глазах. Для всех была загадкой её перемена.

Шло время и в один прекрасный день она узнала, что здорова. Девочка побежала к своим друзьям рассказать о том, какое есть удивительное лекарство от всех болезней, но ей никто не поверил, даже сказали, что если бы всё было так просто, об этом говорили по телевизору и все бы про это знали. Девочка вспомнила, что она и сама не сразу поверила в это удивительное средство и для того, чтобы рассказать об этом другим, нужно найти особые слова, позволяющие достучаться до их сердец.

Она верила в чудо, в волшебную силу, которая ей поможет. Эта мысль не покидала её ни днём, ни ночью, и неожиданно она проснулась. Она открыла в себе маленькое солнышко, которое просыпается лишь в тот момент, когда человек верит, что оно существует. Девочка узнала, что в природе нет никаких тайн, а есть та или иная ступень познания, что из семени вырастает подсолнух только потому, что под действием сил земли и солнца в семени просыпается дремлющая сила.

Люди пришли в этот мир, чтобы разбудить эту скрытую силу в себе. Очень многие рождаются, живут и умирают, так и не проснувшись, не разбудив солнышка, живущего в них.

Она поняла, что смысл жизни в самосовершенствовании и научилась следить не только за каждым своим словом, поступком, но и за каждой своей мыслью, очень много времени посвящала природе, её сказочной красоте, её волшебному миру.

Однажды девочка случайно увидела, как кололи телёнка, слышала его плач, видела его слёзы. Её сердце сжалось от боли. Она не смогла спокойно

